17 чэрвеня 2016 | № 24 (489)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Фанаты — зброя Крамля**
Стар. 12

**5 ГЭТА ВАЙНА НЕ ЗА МЕЖЫ, А ЗА «ТЭРЫТОРЫЮ ДУХУ»**



Што можа найгоршага зрабіць Пуцін? Не пайсці на Марыупаль, не ствараць планы далейшага наступу... Найгоршае з яго боку — вярнуць Украіне Крым

**6 КАПРАМОНТНЫЯ ПАКУТЫ**

Чатыры гады жыхары дома №16 па вуліцы Фабрычнай у Мінску чакалі капітальнага рамонту — першага для дома, збудаванага яшчэ ў сярэдзіне XX стагоддзя. Нарэшце сёлета ў сакавіку рамонт распачалі, аднак далёка не ўсе задаволеныя тым, як ідуць працы

**7–10 ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

**14–15 ЦЯЖКІ ВЫБАР РЫГІ І ТАЛІНА**

Краіны Балтыі 14 чэрвеня адзначаюць Дзень памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсіяў. У гэты дзень у 1941 годзе ў Латвіі, Літве і Эстоніі пачаліся масавыя дэпартацыі. Але распачалося ўсё годам раней

# У чаканні новага страйку

**Ад супрацьстаяння прадпрымальнікаў і ўлады не выйграе ніхто**



Сяргей ПУЛЬША

У першых днях ліпеня нас чакае не толькі пачатак дэнамінацыі. 1 ліпеня заканчваецца ўмоўны тэрмін «мараторыя на праверкі», якія здолелі выгандлеваць індывідуальныя прадпрымальнікі падчас зімніх пратэстаў. Зараз абодва бакі рыхтуюцца да актыўных дзеянняў.

Яшчэ ў лютым Аляксандр Лукашэнка наконт праверак прадпрымальнікаў сказаў: «Правяраем і будзем правяраць!» Канешне, пры гэтым ён адзначыў: «Мы ўжо прынялі ўсе захады для таго, каб інспектар, ідучы па вуліцы, не меў права зайсці ў кіёск і па сваёй волі там пачаць яго правяраць і вытрасаць усё навыварат. Гэта недапушчальна, немагчыма, пакуль начальнік не дасць прадпісання. Няма прадпісання — не пушчай яго наогул на парог».

Тым не менш, кантралюючыя органы вырашылі даць палёгку ІП, заявіўшы, што будуць не правяраць, а «маніторыць» іх дзейнасці да 1 ліпеня. Зараз з'явіліся вынікі гэтага маніторынгу. Спецыялісты Дзяржстандарту склалі спіс тавараў, якія прадаюцца з парушэннямі. Самыя частыя «грахі» прадпрымальнікаў — няправільная маркіроўка, сумнеўная якасць і недастатковая бяспека прадукцыі. У лідарах антырэйтынгу апынуліся дзіцячыя рэчы, цацкі і адзенне. У ведамстве таксама высветлілі, што кожны другі тавар, які правяраўся, прадавалі з парушэннямі. ІП мяркуюць, што прадаўцы менавіта гэтых тавараў — першыя ў спісе на праверкі.

Дробныя бізнесоўцы таксама не спяць у шапку. У Мінску прайшоў чарговы форум прадпрымальнікаў, які арганізавала аб'яднанне «Перспектыва». На ім Анатоль Шумчанка канстатаваў, што працоўная група па праблемах ІП пры Мінэканоміцы не вырашыла праблемы. Хаця і разумее, што яна не для гэтага стваралася. «Яна мела адну задачу — выйграць час, каб збіць запал і прымусіць ІП выйсці на працу. Гэта павінна паслужыць усім нам урокам, у далейшым мы гэтага больш не дапусцім. (...) Нашы праблемы не вырашаныя, а закансерваваныя», — казаў Шумчанка на форуме.

Карыстаючыся тым, што на форуме прысутнічалі прадстаўнікі Мінэканомікі, Шумчанка папярэдзіў уладу: «Праверкі справакуюць новую хвалю пратэстаў прадпрымальнікаў. Тое, што цяпер людзі маўчаць па ўказе №222, гэта не значыць, што яны з ім змірыліся. Як толькі пачнуцца праверкі па гэтым указе, адразу ж загучаць масавыя заявы і патрабаванні аб яго адмене. Прычым, гэтыя заявы будуць падмацаваныя пэўнымі дзеяннямі саміх прадпрымальнікаў», — цытуе Шумчанку БелаПАН.

Аднак вось што дзіўна. Паводле СМІ, у выніковай рэзалюцыі форума багата ініцыятыў і прапаноў: па ўключэнні прадстаўнікоў ІП у заканатворчую дзейнасць, якая тычыцца прадпрымальнікаў, па недатыкальнасці маёмасці, спыненні канфіскацыі тавараў, увядзенні патэнтнай сістэмы і гэтак далей. Аднак няма нічога пра гатоўнасць распачаць акцыі пратэсту ў выпадку хвалі праверак. І наступны прадпрымальніцкі форум запланаваны не на ліпень, а ажно на верасень.

Магчыма, гэта і непатрэбна, бо сітуацыя ў прадпрымальніцкім руху нагадвае барацьбу ў Паўночнай Ірландыі за аддзяленне гэтага краю ад Брытаніі і аб'яднанне Ірландыі. Там ёсць «палітычныя гульцы» ў выглядзе «Шын Фейн», а ёсць



Фота www.tut.by

**Ці рыхтавацца нам да акцый пратэсту?**

радыкалы з Ірландскай рэспубліканскай арміі. І брытанскім уладам лепш размаўляць з «памяркоўнымі».

Так і ў нас: ёсць памяркоўны Шумчанка, з якім можна дамаўляцца, а ёсць «радыкальны» Камітэт па выратаванні прадпрымальніцтва з Макаевым, Севярынцам і Аўтуховічам. Дарэчы, Макаева і Севярынца на форум «Перспектывы» не пусцілі, маўляў, каб «не блытаць эканоміку з палітыкай».

Непамяркоўныя таксама рыхтуюцца. Прадпрымальнік і былы палітвязень Мікалай Аўтуховіч нават напісаў інструкцыю, што рабіць у выпадку праверак і канфіскацыі тавараў. Яна шырока разышлася ў інтэрнэце і больш нагадвае інструкцыю па тым, як гэтыя праверкі сабатаваць. Апроч таго, вынікам зімовых акцый ІП стала ідэя па стварэнні прадпрымальніцкага прафсаюзу «Разам». Улетку плануецца ягоны ўстаноўчы з'езд. Як паведаміў Павел Севярынец, збор подпісаў за адмену ўказа №222 ідзе больш чым у 40 гарадах Беларусі. Такім чынам, пры актывізацыі праверак «радыкалы» могуць паставіць на вушы палову краіны.

У выпадку новай канфрантацыі ІП з уладай пераможцаў не будзе. Як ні дзіўна, гэта разумее і ўлада. На тым жа прадпрымальніцкім форуме дырэктар дэпартамента па прадпрымальніцтву Міністэрства эканомікі Беларусі Пётр Арушаньянц так і заявіў, што ад страйкаў ІП не выйграў ніхто. За студзень-люты доля ІП у рознічным таваразвароце скарацілася ўдвая. Гэта кепска і ўладзе, і спажыўцам, і самім прадпрымальнікам.

Зараз, як кажуць, «мяч на баку ўлады». Ці здолее яна, па словах Шумчанкі, «захаваць статус-кво», альбо нам рыхтавацца да акцый пратэсту?

# «Вясна» патрабуе гарантый

**Рада Праваабарончага цэнтра «Вясна» прыняла адмысловую заяву, у якой патрабуе забеспячэння працэсуальных гарантый і правоў затрыманага стваральніка і аўтара рэсурсу 1863x.com Эдуарда Пальчыса.**

Нагадаем, Пальчыс, вядомы пад псеўданімам Jhon Silver, экстрадаваны ў Беларусь з Расіі.

«На тэрыторыі Расійскай Федэрацыі быў затрыманы і экстрадаваны ў Беларусь рэдактар сайта www.1863x.com Эдуард Пальчыс, — сказана ў заяве праваабаронцаў. — Ён абвінавачваецца паводле ч. 1 арт. 130 («Распальванне расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці або розні») і ч. 2 арт. 343 («Распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў») Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Паводле вядомай нам інфармацыі, да Эдуарда Пальчыса не дапускаюць адваката.

Звяртаем увагу на тое, што Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і міжнародныя нормы, у прыватнасці Міжнародны Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, гарантуюць права на абарону, што азначае, у тым ліку, мецьмагчымасць беспераШкодных і канфідэнцыйных сустрэч з адвакатам, неабмежаваных па колькасці і працягласці.

Таксама нагадваем пра абсалютную забарону катаванняў на падставе артыкула 7 Пакта («Ніхто не павінен падвяргацца катаванням або жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму яго годнасць абыходжанню або пакаранню»). Нагадваем, што падчас зняволення ўся адказнасць за асабістую недатыкальнасць, фізічны і псіхалагічны стан здароўя затрыманага ўскладаецца на ўлады Рэспублікі Беларусь.

На падставе вышэйзгаданага, мы патрабуем выканання ўсіх працэсуальных гарантый і правоў у дачыненні да Эдуарда Пальчыса, які ўтрымліваецца пад вартай у СІЗА г. Жодзіна, а менавіта:

1. Гарантаваць права на абарону, у тым ліку неадкладна дапусціць да яго адваката.
2. Забяспечыць належныя ўмовы ўтрымання і абыходжання, якія б не з'яўляліся жорсткімі, бесчалавечнымі альбо прыніжалі б годнасць, адпавядалі міжнародным стандартам утрымання зняволеных».

**Паводле spring96.org**

# Крызіс і злачыннасць

Арцём ЛЯВА

**Даследаванне ў межах праекта «Рэфорум» на тэму ўплыву макраэканамічных паказчыкаў, звязаных з эканамічным крызісам, на ўзровень злачыннасці ў краіне прэзентаваў у Прэс-клубе аналітык BISS Аляксандр Аўтушка-Сікорскі.**

У даследаванні вылучаюцца тры «індыкатары» эканамічнага крызісу: узровень інфляцыі, гадавыя тэмпы росту ВУП і ўзровень беспрацоўя. У якасці перыядаў крызісу беларускай эканомікі разглядаліся 1991–1994 і 1997–2000 гады.

Сярод злачынстваў, абумоўленых эканамічным крызісам, аўтар даследавання вылучаў наступныя: крадзяжы, рабаванні, разбой, махлярства, збіццё, забойствы.

Візуальны аналіз дадзеных паказвае, што крызіс уплывае на большасць разгледжаных відаў злачынстваў, за выключэннем разбойных нападаў.

Нягледзячы на тое, што ўзровень беспрацоўя было вызначыць даволі складана, даследаванне паказала істотны рост шэрагу злачынстваў у 2001–2005 гадах (нібыта «паслякрызісных»), якія абумоўлены ростам яўнага і прыхаванага беспрацоўя.

Чаму ўплыў беспрацоўя на злачыннасць у 1990-я гады, паводле звестак дакладчыка, не быў такім істотным, як у 2000-я? Аўтар робіць высноўу, што на злачыннасць уплывае не працягласць крызісу, а яго глыбіня.

2001–2005 гады характарызуюцца маштабнымі затрымкамі заробкаў (да 70% па гаспадарцы), шырокай практыкай вымушаных адпачынкаў. Таксама на гэтыя гады прыпадаюць амністыі. Вязні, якія выйшлі на волю, не маглі знайсці працу.

Аляксандр Аўтушка-Сікорскі мяркуе (са спасылкай на МВФ, які прагназуе для Беларусі сёлетняе падзенне ВУП -0,5%), што, хутчэй за ўсё, у бліжэйшай будучыні Беларусь чакае вялацякучы крызіс, які, аднак, не справакуе рэзкага росту цяжкіх злачынстваў.

Тым не менш, улічваючы ўпартае нежаданне ўладаў ісці на рэформы, паглыбленне крызісу на кожнай яго хвалі бадай непазбежнае. Міністэрству працы і сацабароны, а таксама МУС варта звярнуць пільную ўвагу на вынікі даследавання і падрыхтаваць пэўныя захады сацыяльнай абароны, напрыклад, распрацаваць эфектыўную сістэму страхавання ад беспрацоўя, узровень якога з'яўляецца важным фактарам захавання сацыяльнай стабільнасці.

# Чаму ЗША працягваюць санкцыі?

Генадзь КЕСНЕР

**Як вядома, з 16 чэрвеня ЗША не здымуць санкцыі з шэрагу беларускіх чыноўнікаў, абмежаванні працягнуты яшчэ на год. Чаму?**

Паводле меркавання палітолага-міжнародніка Андрэя Фёдарава, у Вашынгтоне, верагодна, не лічаць, што Беларусь у дастатковай меры зрушыла ў бок дэмакратыі і абароны правоў чалавека. ЗША да беларускага кіраўніцтва заўжды ставіліся больш жорстка, чым Еўрасаюз.

***— З аднаго боку, Беларусь і ЗША рыхтуюцца пашырыць дыпламатычнае супрацоўніцтва, нават вярнуць у свае амбасады ваенных аташэ. Чаму ж тады Белы дом прымае такое рашэнне? Ці гэта проста крок па інерцыі з боку Барака Абамы, які ў хуткім часе пакіне пасаду кіраўніка Злучаных Штатаў?***

— Наконт «кульгавай качкі» (так у ЗША называюць прэзідэнта, які больш не можа балатавацца на вышэйшую дзяржаўную пасаду і тэрмін кіравання якога завяршаецца. — Г. К.) я казаць не магу, бо не ведаю, якія ў яго былі меркаванні. У мяне такое ўражанне, што Абама ўвогуле не надта шмат думае пра Беларусь, а толькі падпісвае тое, што яму прапануе Дзяржаўны дэпартамент.

Гіпатэтычна можна ўявіць: гэта зроблена дзеля таго, каб тут не цешыліся, што ўсе праблемы зняты, і далей нас чакае шырокі і светлы шлях. Амерыканцы больш жорстка ставяцца да ўнутрыбеларускіх праблемаў хаця б таму, што яны эканамічна і геапалітычна істотна менш звязаныя з Беларуссю параўнальна з Еўрапейскім саюзам.

***— Як афіцыйны Мінск можа адрэагаваць на пралангацыю санкцый яшчэ на год?***

— Думаю, ён спусціць гэта «на тармазах», выкажа шкадаванне, але рэальна на бягучую сітуацыю гэта ніяк не паўплывае, і ніякіх контрзахадаў не будзе. Падаецца, што Мінск зацікаўлены ў наладжванні стасункаў са Штатамі. Дарэчы, тут нават не зусім зразумела, пра якія санкцыі ідзе гаворка. Відаць, пра Акт аб дэмакратыі для Беларусі, які быў прыняты Кангрэсам у 2004 годзе.

Што да іншых санкцый, якія былі ўведзеныя ў 2010 годзе, то, як казаў часовы паверанparam ў справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд, шмат чаго будзе залежаць ад вынікаў парламенцкіх выбараў у Беларусі, якія маюць адбыцца ў верасні бягучага года. Я не вельмі ўяўляю, што ён меў на ўвазе і якія крытэрыі існуюць для амерыканскага боку, але, па меншай меры, гаворка на прадмет выбараў вядзецца.

***— Якія асноўныя прэтэнзіі ў амерыканскага кіраўніцтва да афіцыйнага Мінска?***

— Гаворка ідзе, найхутчэй, аб свабодзе сродкаў масавай інфармацыі, аб удзеле ў мерапрыемствах ад імя незарэгістраваных арганізацый, аб свабодзе маніфестацый. Хаця людзей у нас цяпер амаль не саджаюць, але выпісваюць буйныя штрафы. А вось з нагоды смяротнага пакарання ЗША не выказваюцца, бо ў іх саміх дзе-нідзе такі від пакарання ўсё яшчэ прымяняецца.

# Празмерныя чаканні прыводзяць да празмерных расчараванняў

Аксана КОЛБ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Конрад Паўлік правёў 15 чэрвеня першую прэс-канферэнцыю на пасадзе кіраўніка польскай дыпламатычнай місіі ў Беларусі.**




Па словах пасла, гэта прэс-канферэнцыя — своеасаблівае падвядзенне вынікаў трохмесячнай працы ў Беларусі. Лейтматыў сённяшніх польска-беларускіх адносін — адбываецца актывізацыя супрацоўніцтва па ўсіх кірунках. У тым ліку, для польскага боку важна развіццё прававой дагаворнай базы, бо шмат якія пагадненні паміж нашымі краінамі дзейнічаюць яшчэ з часоў СССР.

Таксама не на апошнім месцы стаіць павелічэнне колькасць выдадзеных беларусам віз. Менавіта для гэтага не так даўно ў нашай краіне адчыніліся 8 візавых цэнтраў. Хаця і без гэтага ў мінулым годзе беларусам было выдадзена больш за 400 тысяч віз.

Конрад Паўлік нагадаў, што за апошні час Беларусь наведалі тры міністры польскага ўраду, у тым ліку міністр замежных спраў. Такога нашэсця афіцыйных асобаў за такі кароткі прамежак часу Беларусь яшчэ не ведала. Але гэта не значыць, што хутка адбудзецца прарыў у нашых двухбаковых адносінах. Таму спадар Паўлік прасіў не чакаць шмат. «Празмерныя чаканні прыводзяць да празмерных расчараванняў», — падкрэсліў пасол.

«Я лічу, што трэба пачынаць з дэталяў, каб дайсці да фундаментальнага. Менавіта дэталі пасля складаюць і эканамічнае, і палітычнае значэнне. Хаця я разумею, што гэта будзе каштаваць і мне, і маім супрацоўнікам вялікай працы, — зазначыў Конрад Паўлік. — Не ўсе пытанні нам удасца вырашыць, але трэба паспрабаваць знайсці кампраміс».

Сярод тых пытанняў, якія, на думку пасла, не будуць лёгкімі ў абмеркаванні з беларускімі ўладамі, гэта і гістарычны дыялог, у тым ліку ўшанаванне ахвяр сталінскіх расстрэлаў, і пытанні польскай дыяспары, і малы памежны рух.

«Ёсць такія сферы, у якіх шмат пытанняў, і будзе складана сказаць, што ў іх адбудзецца прагрэс. Ёсць і шмат сфер, дзе можна паспяхова працаваць, але мы дасюль няшмат працавалі. Гэта менавіта тычыцца мяжы і памежнага супрацоўніцтва. Мы часта забываем — і ў Варшаве, і ў Мінску, — што праз два гады будзе праходзіць Чэмпіянат свету па футболе ў Расійскай Федэрацыі, і заўзятары будуць ехаць праз нашу мяжу. А паміж намі дзейнічае дамова яшчэ 1960-х гадоў. І над гэтым трэба ўжо працаваць. Таму ёсць шмат дэталяў, якія складаюць больш фундаментальную праблему», — сказаў пасол.

Для супрацоўніцтва паміж Варшавай і Мінскам ёсць шмат сфер. І гэта не толькі гандлёва-эканамічныя адносіны, а яшчэ і экалогія, турызм, адукацыйныя і культурныя праграмы, пытанні спрыяння развіццю і шмат іншых.

«Польшча, якая ў свой час атрымлівала дапамогу, адчувае зараз маральны абавязак і хоча стаць донарам для Беларусі», — адзначыў Конрад Паўлік.

А што тычыцца складаных пытанняў двухбаковых адносін, то іх, па словах пасла, «лепш вырашаць у цішыні дыпламатычных кабінетаў».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Джынсы як тэст на кемлівасць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларуская гаспадарка ўсё ж здзейсніла даўно абяцаны каласальны прарыў. На тыдні ўвесь інтэрнэт рагатаў над беларускімі джынсамі. Пасля доўгіх і працяглых выпрабаванняў яны ўсё ж былі запушчаныя ў серыйную вытворчасць.**


Фота www.2photo.ru

«Вось, глядзіце, у майго намесніка пінжак з беларускай джынсы», — указаў на намесніка на прэс-канферэнцыі кіраўнік Беллегпрама Мікалай Яфімчык. Паводле яго слоў, такія пінжакі можна было пабачыць на стэндзе Беллегпрама на выставе «Белагра». А праз месяц іх можна будзе набыць у крамах Аршанскага льнокамбіната.

Падаецца, даўно ляжачы Беллегпрам знайшоў выратавальную палачку. Аднак... Кошт айчыннай джынсы будзе кусацца. «Гэта будзе элітны, буцікавы асартымент. Яны не будуць каштаваць столькі ж, колькі джынсы з Туркменістана, не 150–600 тысяч. Цана будзе прыкладна на ўзроўні добрых брэндавых джынсаў», — адзначыў ён.

Карацей, хто хоча набыць беларускі джынс — рыхтуйце як мінімум мільён рублёў. І забудзьцеся пра тое, што за такія грошы можна ўзяць чатыры штукі турэцкіх джынсаў.

Да таго ж можна ўжо распачынаць квэст пад умоўнай назвай «Знайдзі ў краіне буцік Аршанскага ільнокамбіната».

Дый пакуль ніхто, за выключэннем спецыялістаў, гэтай прадукцыі не бачыў. Тканіна, можа, і добрая, але, напрыклад, дызайнер Іван Айплатаў кажа, што самае галоўнае ў джынсах — не тканіна. «Самае галоўнае — гэта фінішная апрацоўка, і ў гэтым асабліва паспяховыя італьянцы. Розныя віды пацёртасцяў і дзірак — гэта тое, над чым працуюць у Італіі цэлыя студыі... Але пра якасць беларускай тканіны пакуль не магу сказаць — не бачыў», — пракаментаваў новы прадукт Айплатаў.

А дызайнер Саша Варламаў увогуле лічыць, што нічога «джынсавага» ў гэтай распрацоўцы няма. «Джынс — гэта стоадсоткава бавоўна. Нельга атрымаць джынс з бавоўны і лёну. У джынсе ёсць пэўны склад, тэхналогія вытворчасці». Па яго словах, тканіна, што складаецца з сумесі лёну з бавоўнай, дэфармуецца, а значыць, будзе мяцца, а джынсам гэта неўласціва: «Узгадайце сялянскую ільняную вопратку. Вы дзе-небудзь бачылі прылеглы або паўпрылеглы сілуэт? Гэта шырокія рэчы вольнага крою. Але гэта не джынсы». І да таго ж, кажа Варламаў, «джынсы ад П'ера Кардэна, якія робяць у Паўднёва-Усходняй Азіі, каштуюць 1,5–2 долара. Калі іх прывозяць у Еўропу, іх кошт у краме 20 еўра. Можаце ўявіць, які прыбытак заклалі ў джынсавую тканіну на Аршанскім ільнокамбінаце?»

Карацей, канцэпцыя «імпартазамяшчэння» ў чарговы раз пацярпела элегантную паразу. Па меркаванні адмыслоўцаў, беларускія джынсы ані па кошце, ані па якасці, ані па даступнасці для насельніцтва не здолеюць канкураваць з нармальнай джынсой. Ёсць толькі адзін сродак прымусіць насельніцтва «насіць беларускае». Гэта забараніць увоз джынсаў у краіну. Аднак для гэтага трэба закрыць мяжу. Бо на мільён беларускіх рублёў можна замовіць шоп-тур у Смаленск (400 тысяч з Мінска) і на рэшту набыць там двое нармальных джынсаў замест адных айчынных.

Тым больш, што нам абяцаюць стабілізаваць скачкі курсаў валют. У Беларусі створаны савет па фінансавай стабільнасці. У ліку яго асноўных задач — распрацоўка і каардынацыя выканання захадаў, накіраваных на забеспячэнне фінансавай стабільнасці, пры якой банкі і нябанкаўскія крэдытна-фінансавыя арганізацыі, іншыя фінансавыя пасярэднікі, фінансавы рынак і плацежная сістэма належным чынам ажыццяўляюць сваю дзейнасць, у тым ліку ў выпадку дэстабілізуючага ўздзеяння ўнутраных і знешніх фактараў.

Вось наконт знешніх дэстабілізуючых фактараў хацелася б падрабязней. Стабільнасць беларускага рубля ў вялікай ступені залежыць нашага асноўнага гандлёвага партнёра — Расіі. А расійскі рубель залежыць ад кошту нафты. Па-мойму, гэты савет адразу трэба выправіць як мінімум у Маскву альбо адразу зрабіць яго складнікам АПЕК, які шмат у чым вызначае сусветны кошт нафты.

Праўда, стварэнне такога савету — сігнал, хутчэй, трывожны. Бо мы прызвычаіліся, па старой завядзёнцы, што ўсё адбываецца з дакладнасцю да наадварот. Калі нам кажуць, што дэвальвацыі не будзе — долар адразу ж скача ўверх. Калі нам абяцаюць «замарозіць кошты», яны адразу ж падскокваюць. Калі нам абяцаюць «не павышаць кошты ЖКГ больш чым на 5 доляраў», мы атрымліваем «жыроўкі» са шматлікімі нулямі.

Але нашы людзі — проста героі. Яны вытрымаюць не тое што фінансавую стабільнасць. Вось, напрыклад, цікавы выпадак адбыўся ў Гродна, падчас XI Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Міліцыянты дзве гадзіны падпіралі ліхтарны слуп, каб той не ўпаў на грамадзян.

На вуліцы Савецкай да дзяжурных міліцыянтаў падбегла грамадзянка і ў паніцы паведаміла, што насупраць універмага на людзей падае ліхтарны слуп. Аказалася, што ў асвятляльнай мачты лопнула аснова, і вецер матляў яе з боку ў бок. Міліцыянты папрасілі людзей адысці далей ад слупа, які важыць больш за сто кілаграмаў. Дапамаглі вулічным гандлярам перанесці столікі з таварам на бяспечную адлегласць, пасля чаго ўдвaix сталі ўтрымліваць канструкцыю, паведаміўшы аб здарэнні кіраўніцтву. На месца выехаў сам начальнік УАПП УУС Гродзенскага аблвыканкама палкоўнік міліцыі Вячаслаў Баклага: ён звязаўся з камунальнікамі, каб тыя дэмантавалі слуп, а таксама выклікаў на дапамогу яшчэ двух супрацоўнікаў міліцыі. Апошнія пратрымалі слуп яшчэ паўтары гадзіны, бо тэхніка не магла пад'ехаць да месца здарэння з-за вялікай колькасці людзей.

Канешне, міліцыянты прадэманстравалі сваю немалую фізічную моц. На месцы гродзенцаў я б ім падзякаваў. Але тут ёсць адно пытанне. Няўжо ніхто не ўцяміў патэлефанаваць не камунальнікам, а МЧС? Бо гэта іх справа — прадухіляць такія выпадкі. І ў іх ёсць адпаведнае абсталяванне, каб, прынамсі, замацаваць альбо падперці слуп.

Можа, спачатку трэба падумаць? Як у выпадку з джынсамі...

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Васіль Парфянкоў

**Былы беларускі палітвязень, баец валанцёрскага батальёна АУН жэніцца.**

Яго абранніца Алена — ваенны тактычны медык, вучыць байцоў, як ратаваць сябе ў выпадку ранення, калі побач няма медыцынскай дапамогі. Маладыя пазнаёміліся ў зоне баёў на Данбасе два гады таму, калі Васіль прыехаў добраахвотнікам ва Украіну.

Яны плануюць зарэгістраваць шлюб пасля таго, як скончыцца суд, датычны Васіля — ён праходзіць па справе пагромаў офісаў расійскіх банкаў і фірмаў, якія адбыліся 20 лютага ў Кіеве. На першым пасяджэнні паліцэйскія не пазналі Парфянкова як актыўнага ўдзельніка тых пагромаў.

«У мяне ёсць адвакат і ўся неабходная падтрымка. Чакаю, што суд прысудзіць умоўны тэрмін, і тады мы з Аленай зможам афіцыйна распісацца», — сказаў Парфянкоў падчас жалобнага мітынгу на Майдане Незалежнасці ў Кіеве, на які людзі прыйшлі, каб аддаць пашану загінулым у зоне АТА 11 чэрвеня.

Будучая жонка Васіля Парфянкова адзначыла, што вельмі добра ставіцца да беларусаў, і моцна ўзрадавалася, калі, пазнаёміўшыся з Васілём, даведалася, што той з Беларусі.

Васіль Парфянкоў быў удзельнікам Плошчы ў 2010 годзе, прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі, але ўжо ў жніўні 2011 года быў памілаваны. Пасля гэтага актывіст двойчы апынаўся за кратамі за сваю палітычную дзейнасць. Выйшаўшы з турмы ў снежні 2014 года, ён з'ехаў ва Украіну і далучыўся да беларускіх добраахвотнікаў, якія прымаюць удзел у антытэрарыстычнай аперацыі ў Данбасе.



## Ганна Шарэйка

**Былы сенатар і кіраўніца Віцебскай птушкафабрыкі ўсё ж будзе працаваць гендырэктарам.**

Нагадаем, Шарэйку вінавацілі ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Па версіі следства, Шарэйка як гендырэктар Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі ўступіла ў карупцыйную змову са сваім каханым Вальдэмарасам Норкусам. Нібыта фірма Норкуса выстаўляла прыніжаную цану камбікармоў для птушкі, але потым яна павялічвалася за кошт транспартных выдаткаў і мытных плацяжоў. У выніку канчатковая цана замежнага камбікорму была вышэй за айчынны.

Справа Шарэйкі ў судзе фактычна развалілася. Абвінавачванне прызнала адсутнасць матэрыяльных стратаў і адмовілася ад таго, што злачынства здзейснена ў складзе групы. Тым не менш, Шарэйку прызналі вінаватай у злоўжыванні службовай уладай і прысудзілі да 2,5 гадоў пазбаўлення волі. З улікам ужо адседжанага і амністыі яе вызвалілі ў зале суда. Паколькі была прымененая амністыя, Шарэйка мае права займаць кіруючыя пасады.

За кратамі з сямі фігурантаў справы застаецца адзін — Вальдэмарас Норкус, літоўскі бізнесмен і каханы Шарэйкі. На волю ён выйдзе 10 ліпеня.

На фабрыцы Шарэйку сустракалі кветкамі. І не дзіва. Віцебская бройлерная птушкафабрыка была прыбытковай, а 2014 год, калі арыштавалі Шарэйку, скончыла ў першай дваццатцы самых прыбытковых ААТ краіны (150 мільярдаў рублёў чыстага прыбытку). У адсутнасць гендырэктара, па выніках 2015 года, фабрыка стала стратнай — чыстыя страты склалі 50 мільярдаў рублёў.



## Лявон Вольскі

**Знаны беларускі рок-музыка выступіў на адной сцэне з пераможцай «Еўрабачання–2016» украінскай спявачкай Джамалой.**

Канцэрт адбыўся 14 чэрвеня на Кафедральнай плошчы ў Вільні.

Канцэрт пад назвай «За нашу і вашу свабоду» прайшоў у Дзень смутку і надзеі, у які Літва шануе памяць ахвяр масавай высылкі нявінных грамадзян у Сібір і мясціны Крайняй Поўначы. Яго арганізавалі падпісант Акту аб незалежнасці Літвы Эмануэліс Зінгерыс і Літоўскі саюз татарскай абшчыны.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел першыя кіраўнікі дэмакратычных Украіны і Беларусі Леанід Краўчук і Станіслаў Шушкевіч. На канцэрце, апроч Вольскага і Джамалы, спявалі Ева Наркуце і Аксана Білазір.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Ліса і прагныя мядзведзікі

**Беларуская мадэль выглядае ўнікальнай толькі на фоне сваіх заходніх суседзяў**

Згодна з Вікіпедыяй, памылка — ненаўмыснае адхіленне ад правільных дзеянняў, учынкаў, думак. Звярнуцца да гэтага паняцця і паставіць яго ў цэнтр чарговай «Азбукі паліталогіі» мяне натхніў артыкул палітолага Уладзіміра Роўды «Чаму Усебеларускі народны сход будзе праводзіцца ў разгар крызісу?», апублікаваны на сайце «Наша думка».

Цытую: «Змена вектара знешняй палітыкі магла б стаць адным з ключавых пытанняў парадку дня Усебеларускага народнага сходу. Але гэтага не адбудзецца. Дадзеная праблема не будзе нават узнятая на гэтым цалкам пустым мерапрыемстве, таму што А. Лукашэнка прызвычаіўся вырашаць усе найважнейшыя пытанні развіцця краіны самастойна. Калі б усё адбывалася інакш, дык пры планаванні палітычнага курсу не было б дапушчана столькі шмат грубых памылак: мы б сапраўды даўно жылі зусім у іншай краіне».

Дык вось у чым справа! Аказваецца, беларуская мадэль з усімі яе аўтарытарна-таталітарнымі асаблівасцямі сфармавалася ў выніку чарады кіраўнічых памылак. Г. зн. першапачаткова яе бацькі-заснавальнікі, абапіраючыся на мандат большасці беларусаў, планавалі крочыць у правільным кірунку. Але ў выніку ненаўмысных адхіленняў (памылак) атрымалася тое, што атрымалася.

Але калі гэта так, дык сітуацыю можна выправіць. Усё, што неабходна, гэта, па-першае, прызнанне «вертыкаллю» сваіх памылак і, па-другое, сур'ёзная работа па іх ліквідацыі. Будзем спадзявацца, што на выкананне гэтай праграмы і скіруюць свае намаганні дэлегаты Пятага Усебеларускага народнага сходу.




## У імя вышэйшых інтарэсаў дзяржавы

Унікальнасць беларускай мадэлі не варта перабольшваць. Каб зразумець гэту азбукавую ісціну, нам варта зрабіць кароткі гістарычны экскурс.

На працягу тысячагоддзяў існавала ў асноўным два тыпы дзяржаўных утварэнняў (калі не лічыць пераходныя). Першы і тыпалагічна больш ранні — усходні. Ён аб'ядноўвае ўсе цывілізацыі па-за Еўропай. Яго сэнс заключаецца ў структуры ўлады-ўласнасці, што на практыцы азначала поўнае дамінаванне ўлады ў дзяржаве (знаёмы выпадак, ці не так?).

У дзяржавах такога тыпу ўсе багацці і здабыткі грамадства знаходзяцца ў фактычнай уласнасці кіраўніка і апарата яго адміністрацыі. «Папракаюць: Лукашэнка прыватызуе Беларусь… Але гэта мая Беларусь. І я баюся, што раптам будзе не так, і ты ўжо нічым не дапаможаш. <...> У мяне, акрамя краіны, нічога няма». Лепшага тлумачэнні паняцця «ўлада-ўласнасць», мабыць, і не знайсці.

Права цэнтралізаванага размеркавання рэсурсаў недатыкальнае, а сістэма ўлады арганізавана такім чынам, каб уся моц была сканцэнтраваная ў руках кіраўніка. «Гэтая канцэнтрацыя, — тлумачыць гісторык Леанід Васільеў, — неабходная для выжывання і ўмацавання соцыуму, што ён інтуітыўна ўсведамляе і, як правіла, супраць усёмагутнасці вярхоўнай улады не пратэстуе».

Вышэйшая ўлада ў гэтай структуры ўсёмагутная, насельніцтва ж знаходзіцца ў статусе бяспраўных падданых, што не адмяняе права на прыватную ўласнасць. Аднак у любы момант яна можа быць канфіскавана ўладай у імя вышэйшых інтарэсаў дзяржавы і яе вярхоўнага кіраўніка.

«Кажуць: «Лукашэнка баіцца прыватніка і прыватнай уласнасці — гэта пагроза ўладзе». Ды хопіць вам… З любым прыватнікам значна прасцей працаваць, чым з дзяржаўным прадпрыемствам». На чым заснавана такая ўпэўненасць адзінага палітыка (АП)? Адказ відавочны: «Яму (прыватніку) сказаў — ён зробіць. Таму што, па вялікім рахунку, рызыкуе ў адваротным выпадку страціць сваю ўласнасць…»

Сэнс улады-ўласнасці відавочны: чалавек дзеля дзяржавы, г.зн. дзеля тых, хто займае ў кіраванні камандныя пасады.

Але чаму такі прынцып арганізацыі існаваў на працягу тысячагоддзяў? Усё вельмі проста: без яго насельніцтва стала б лёгкай здабычай для любога гвалтаўніка, пачынаючы ад ордаў качэўнікаў і заканчваючы суседнімі дзяржавамі. Але за ўсё ў гэтым жыцці даводзіцца плаціць. За моц «моцнай дзяржавы» насельніцтву на працягу тысячагоддзяў даводзілася расплачвацца пагалоўным рабствам.

## Падтрымала 58,3%, не падтрымала 17,6%

Другі тып дзяржаўнага ўтварэння — заходні, антычнай-буржуазны. Яго радзіма — антычная Грэцыя, а базавы інстытут — поліс. Цэнтр поліса — горад з адміністрацыйнымі і культавымі будынкамі. Зямлі вакол — надзелы грамадзян, паўнапраўных чальцоў гарадской грамады гэтага поліса. Тут няма падданых і ўладара.

Грамадства раўнапраўных грамадзян само выбірае магістрат з грамадзян, якія часова займаюць пасады і пераабіраюцца. Яно ж пад кіраўніцтвам найбольш выбітных сваіх прадстаўнікоў стварае законы, арганізуе суд і будуе грамадскія збудаванні.

Зразумела, ёсць бяспраўныя рабы і чужаземцы-чужынцы. Грамадства пярэстае і няроўнае, але аснова яго — грамадзяне, ад якіх залежыць выбарная ўлада. Гэта структура грамадзянскай супольнасці. Тут дзяржава дзеля чалавека.

Перакос сучаснай беларускай дзяржавы ў бок першага тыпу відавочны. Але так было не заўсёды. Прыхільнікі еўрапейскага выбару любяць спасылацца на Вялікае Княства Літоўскае. Безумоўна, яно было часткай заходняга свету, у якім адносіны паміж васаламі і сеньёрамі мелі на ўвазе дамову з наяўнасцю правоў у абодвух бакоў. Тут дарэчы будзе прыгадаць і сістэму самакіравання гарадоў. Ратушы на цэнтральных плошчах — жывыя сведкі слаўнага еўрапейскага мінулага.

Чаму ў 1795 годзе пад еўрапейскай гісторыяй была праведзена тлустая рыса — асобная тэма. Але сёння мы маем грамадства, якое 24 лістапада 1996 года на рэспубліканскім рэферэндуме адмовілася выбіраць кіраўнікоў мясцовай улады. За абранне прагаласавала 28,14%, супраць — 69,92% (ад колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні).

Мне запярэчаць, што другі канстытуцыйны рэферэндум быў адзначаны дэбютам Лідзіі Ярмошынай у якасці кіраўніка ЦВК, таму ўспрымаць афіцыйныя вынікі галасавання варта з пэўнай доляй скептыцызму. Пярэчанне прымаецца. Аднак я нешта не ўзгадаю масавых пратэстаў з нагоды вынікаў рэферэндуму, а праведзенае ў чэрвені 1997 года апытанне НІСЭПД паказала, што праект Канстытуцыі ў рэдакцыі АП падтрымалі 58,3% беларусаў, не падтрымалі — толькі 17,6%, пры 24,1% тых, хто не прыняў удзелу ў галасаванні.

Важна разумець, што першы тып дзяржаўнасці («загадны») трымаецца на падтрымцы мас знізу, а не на ўладзе эліты. І калі разбурыць такую ўладу, дык вынікам разбурэння зусім не абавязкова стане ўсталяванне дэмакратыі заходняга ўзору. У пачатку 90-х гадоў мы мелі магчымасць назіраць і працэс разбурэння, і наступную за ім рэгенерацыю загаднага тыпу дзяржавы.

Зноў звернемся па дапамогу да гісторыка Леаніда Васільева: «Выхоўваць трэба, у першую чаргу, масы, а не эліту. Я хачу нагадаць казку пра двух прагных мядзведзікаў (якія дзялілі параўну галоўку сыру і ў пасрэднікі ўзялі лісу). З гэтай казкі відаць, што выхаванне трэба пачынаць не з лісы, а з мядзведзікаў».

## «Цугцванг» — слова нямецкае

Прывяду яшчэ адну цытату з артыкула Уладзіміра Роўды: «Прычынай, якая прымушае А. Лукашэнку склікаць Усебеларускі народны сход, з'яўляецца яго памылковая перакананасць у глыбокай дэмакратычнасці гэтага палітычнага ўтварэння… А. Лукашэнка ўпэўнены, што ў нашай краіне дэмакратыя перамагла, пра што ён нядаўна распавёў польскаму міністру замежных спраў. Беларускі лідар падкрэсліў, што «ён будзе старацца рабіць так, каб ніхто нас ніколі не папракнуў у недастатковай дэмакратыі, у адсутнасці яе. Мы будзем так рабіць, каб яе было не менш, чым у Польшчы».

Аднак у нашых заходніх суседзяў дэмакратыя выступае ў якасці асноўнага фактару стабільнасці, што не выключае, а, наадварот, мае на ўвазе рэгулярную змену персон ва ўладных калідорах. Беларускі ж варыянт дэмакратыі саму магчымасць абмежавання манаполіі на ўладу першай асобы дзяржавы разглядае ў якасці катастрофы нацыянальнага маштабу.

Звернемся да нядаўняга мінулага. Завяршэнне эканамічнага росту ў СССР многія сур'ёзныя аўтары звязваюць з немагчымасцю стварэння эфектыўных стымулаў у цэнтралізаванай эканоміцы. Склалася сітуацыя, калі для далейшага развіцця ад палітычных лідараў запатрабавалася адмова ад неабмежаванай палітычнай улады. Пагадзіцца на такое яны, натуральна, не маглі. Вынік — абвальванне ўсёй сістэмы пад уласнай вагой.

Сталінская мадэрнізацыя «зверху» працавала ў сітуацыі пераходу ад сельскагаспадарчага ўкладу да індустрыяльнага. Але для пераходу да постіндустрыяльнага інавацыйнага развіцця неабходна развязваленне ініцыятывы «знізу». У гэтай справе «цвёрдая рука» і «вертыкаль» — не памочнікі. Без палітычных рашэнняў эканамічны трэнд, што імкнецца ўніз, не змяніць.

Сучасны этап у развіцці беларускай мадэлі найбольш ёміста перадае слова «цугцванг» — становішча ў шахматах, у якім любы ход гульца вядзе да пагаршэння яго пазіцыі. Жадаючым пераканацца ў абгрунтаванасці такога параўнання рэкамендую не прапусціць трансляцыі з Пятага Усебеларускага народнага сходу. Займальнае будзе відовішча.

«Цугцванг» — слова нямецкае. Сучасную сітуацыю можна апісаць і пры дапамозе беларускай народнай песні «Як пагнала бабуленька куранятак пасці». Жаданне гераіні «разам збагацеці» седзячы на пянёчку абярнулася прамымі матэрыяльнымі стратамі. Але гэтым справа не абмежавалася. Два радкі апошняга чатырохрадкоўі складаюцца са шматкроць паўтораных выклічнікаў «ой» і «ёй», што служыць відавочным сведчаннем страты стабільнасці ў сацыяльнай сістэме, у якой адносіны паміж дзяржавай і грамадствам пабудаваныя паводле ўсходняга ўзору.

# Гэта вайна не за межы, а за «тэрыторыю духу»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Васіль Шкляр у нейкім сэнсе адкрыў для ўкраінцаў забароненыя старонкі іх гісторыі. Да з'яўлення рамана «Чорны воран» пра атаманаў цэнтральнай Украіны, герояў Халоднаярскай рэспублікі, якая нечым нагадвала Слуцкі Збройны Чын, дзе нават у 1920-я гады не было савецкай улады, ведалі адзінкі.**

Калі асабіста знаёмішся з Васілём Шклярам, стварацца ўражанне, што гэты чалавек наўпрост сышоў са старонак сваёй жа прозы: вайсковая выпраўка, казацкія вусы, пранізлівы погляд. Зараз ён піша пра падзеі вайны на Усходзе Украіны і дапамагае дабраахвотнікам «Азову».



Фота Васіля Малчанава

### «Нашу гісторыю пісалі ворагі і акупанты»

*— Пане Васіль, калі вы пішаце гістарычную прозу, ці адчуваеце, што ствараеце гісторыю?*

— Ёсць такая думка, што аўтар гістарычнага рамана стварае міфы, і гэтыя міфы вельмі важныя для нацыі. Іх не варта разумець як выдумкі, творчую фантазію. Шмат міфаў стварала сама гісторыя, таму іх трэба наўпрост выхопліваць, па-мастацку асэнсоўваць, і тады яны могуць стаць нават вышэйшымі за праўду.

Сёння ва Украіне найбольш запатрабаваны гістарычны раман. Я б сказаў, што чытач больш цягнецца да гістарычнай прозы, чым да сучаснай, нават пра вайну, якая ідзе.

*— У чым прычына?*

— Усё проста: украінцы, як і беларусы, ніколі не ведалі сваёй сапраўднай гісторыі, бо яе пісалі ворагі і акупанты, якія нашых герояў называлі бандытамі, а саміх сябе — героямі.

Бальшавікам цяжка было прыхаваць подзвіг УПА, бо было шмат сведкаў і ўдзельнікаў, а вось ранейшы перыяд паспрабавалі выкінуць з нашай памяці. Атаманы казалі: «Мы загінем, але пакінем пасля сабе легенду. На нашай крыві і магілах прарасце мэта і з'явяцца новыя героі». Таму нават чэкістаў, якія ў сваіх успамінах згадваюць атаманаў, расстрэльвалі. Пра гэта наўпрост нельга было казаць: ані добрага, ані злога. Маўляў, не было такога!

### «Хлопец выйшаў на запраўцы і забіў «сепара» — голымі рукамі»

*— Вы кажаце пра «новага чалавека», «новага ўкраінца», хто гэта?*

— Ляшчэ гадоў пяць таму ў мяне пыталіся: маўляў, вы апісваеце бясстрашных людзей, а ці ёсць такія сярод нас? Я казаў: не, няма, бо нас вытапталі на генным узроўні. Нам нагналі такога страху, што гэта ўжо ўвайшло ў кроў, таму мы не такія.

Але было прадчуванне з'яўлення новага чалавека. Была надзея на новае пакаленне, якое вырасла ў часы незалежнасці. У выніку так і сталася: на Майдан прыйшлі хлопцы, якія з драўлянымі шчытамі выступілі супраць такой сілы... Прыйшлі і перамаглі.

*— То бок Майдан стаў рубіконам?*

— Так, на Майдане нарадзіўся новы ўкраінец, які перамог у сабе страх. Гэта не значыць, што такі чалавек не баіцца: страх характэрны для кожнага. Але справа ў тым, каб страх перамагчы і пайсці далей.

Пасля гэтыя ж хлопцы паехалі на Данбас. Паехалі з голымі рукамі, без аніякага забеспячэння, ехалі ў бусіках, каб ніхто не ведаў. Не выходзілі, выбач, мачыліся ў пластыкавыя бутэлькі. Калі даехалі, ужо на Данбасе, выйшлі на запраўцы, і адзін «сепар» пабачыў, раскусіў, хто едзе, і кажа мацюкамі, маўляў, валіце адсюль, бандэраўцы. Тады адзін хлопец падышоў і... забіў яго. Не нажом, не з аўтамату, наўпрост голымі рукамі — забіў.

### Вярнуць Крым і Данбас — найгоршае, што можа зрабіць Пуцін

*— Рэвалюцыя Годнасці ўжо адбылася, а што з культурнай рэвалюцыяй? Яна ідзе ці дагэтуль наперадзе?*

— Культурная рэвалюцыя — гэта велічэзная праблема. У нас ніколі не было нармальнай гуманітарнай палітыкі, сапраўднага «адраджэння», інтэграцыі тэрыторый, якія зараз пад акупацыяй. Ляшчэ ў 90-я гады я казаў непапулярныя рэчы пра тое, што і Крым, і Данбас трэба аддаць. Бо не ўкраінізацыя рухаецца на Усход, а русіфікацыя на Захад.

Дагэтуль уласнікі тэлеканалаў — людзі не ўкраінскага духу, для іх усё дыктуе эканамічная выгада, а ва ўмовах дэмакратыі з гэтым цяжка змагацца. Няма нейкіх нормаў ці абмежаванняў, каб гэта змяніць, рабіць украінскае кіно, ствараць украінскую тэлепрастору. Усё гэта толькі ў зародкавым стане, і я, на жаль, не бачу ніякага прасвету.

*— Дэмакратыя стала праблемай?*

— Бацька ўкраінскага нацыяналізму Мікола Міхноўскі яшчэ ў 1900 годзе выказаў такую думку: «Нацыя, якая не вызваліць сябе да надыходу дэмакратыі, не будзе мець шансаў». Што такое дэмакратыя? Прыйшлі захопнікі, вымарылі голадам украінцаў, засялілі тэрыторыю, а зараз кажуць: «Давайце жыць дэмакратычна і галасаваць». А іх большасць, і ты нічога не можаш зрабіць.

На парламенцкіх выбарах дагэтуль праходзяць былыя «рэгіяналы», антыўкраінскія сілы. Як толькі даходзіць да галасавання, напрыклад, каб абмежаваць расійскую папсу ў эфіры, даць украінцам хаця б 30%, такі смешны адсотак, і тое не набіраецца галасоў... Адсюль з'яўляецца «філасофія адчаю».

Што можа найгоршага зрабіць Пуцін? Не пайсці на Марыупаль, не ствараць планы далейшага наступу... Найгоршае з яго боку — вярнуць Украіне Крым. Гэта зноў баласт, зноў фактар русіфікацыі. Калі паслухаць некаторых нашых палітыкаў, то ўзнікае адчуванне, што размова ідзе не пра вяртанне Данбасу ва Украіну, а пра далучэнне Украіны да Данбасу. Гэта ганебная пазіцыя.

### «Крымам мусяць займацца татары, а на Данбасе трэба будаваць сцяну»

*— А ці ёсць нейкі пазітыўны сцэнар вяртання Крыму і Данбасу?*

— Я лічу, што Крым не вернецца ва Украіну. Такім, як ён ёсць, ён і не патрэбны. Вядома, палітыкі не маюць права, паводле іх правілаў, казаць, што мы згубілі Крым назаўжды. Але я ніякіх ілюзіяў не маю. Гэта зямля крымскіх татараў, мы іх павінны падтрымліваць. Калі нацыя мае паўнавартасна развівацца на сваёй зямлі, дык чаму на гэта не маюць права крымскія татары?

Хай займаюцца, тым больш, што дэмаграфічная сітуацыя ў іх лепшая за ўкраінцаў. Хай павольна з гэтым працуюць, пры падтрымцы сусветнай супольнасці. Вядома, кожны нацыяналіст марыць, каб яго зямля не была аўтаноміяй, а стала незалежнай. Яны таксама маюць на гэта права.

*— А што наконт Данбасу?*

— На Данбасе трэба будаваць сцяну. Нас калісьці пужалі, маўляў, з Данбасам нас чакае варыянт Прыднястроўя. А я скажу, што гэта найлепшы варыянт. Малдова развіваецца, ідзе ў Еўрасаюз, не мае пагрозы асіміляцыі. Таму трэба аддзяліць іх, і хай робяць сабе, што хочуць. А нам варта будаваць сваю моцную дзяржаву ў тых межах, дзе ўкраінцы лічаць сябе ўкраінцамі. Пасля — хай далучаюцца. Толькі ўжо на нашых умовах.

Днямі я сустракаўся са свядомымі людзьмі з Усходу, якія распавядалі пра тамтэйшую партызанку, што там украінская зямля... А з іншага боку, я гляджу, як на 9 сакавіка, на дзень нараджэння Шаўчэнкі, да помніка Тарасу там выйшла адна бабуся з сіне-жоўтым сцяжком. Яе атачыла столькі «ваты», зацкавалі, абмацюкалі... Там большасць такога элементу. Каб было інакш, не сталася б тое, што сталася. Я радыкальны ў гэтым пытанні.

### «Можна хоць усю Расію далучыць да Украіны, толькі ад Украіны нічога не застанецца»

*— Тады наогул ці можа ўкраінскі патрыёт быць рускамоўным?*

— Часам сустракаеш такіх хлопцаў. Вырас ён у тым жа Данецку, ніколі гэтай мовы не чуў. Адзін хлопец з пазыўным «Прафесар» распавядаў мне, як ён прыехаў на ўкраінскае вяселле. А там — абрады, песні, нацыянальныя строі. Ён кажа: «Я ніколі не ўяўляў, што жыву ў такой краіне». Да гэтага варта ставіцца з разуменнем. Рускамоўны патрыёт — гэта той, хто не мог вывучыць мову, але жадае яе ведаць.

Часам з рускамоўным гаворыш, і ён кажа: «Мне это не нужно, я без этого языка обойдусь...» Гэта — найбольшая бяда, калі ў дзяржаве можна абысціся без дзяржаўнай мовы. Трэба, каб было інакш: не, не абыдзешся. Калі ты хочаш толькі месці вуліцы і мыць прыбіральні — размаўляй, як хочаш. А калі хочаш рабіць кар'еру — не можаш абысціся. А ў нас можна, у нас міністры нарады праводзяць па-руску.

***— Рускамоўны ўкраінец, які робіць над сабой высілкі, каб спасцігнуць сваё, — гэта таксама патрыёт?***

— Рускамоўны бацька, які аддае дзіцё ва ўкраінскі садок ці школу, выхоўвае адпаведна — так, гэта патрыёт. А ёсць жа і тыя, хто ваюе і кажа: «А я воюю за русскоязычную Украину». З такімі людзьмі будуць праблемы ў будучым. Мы вернем свае межы, але галоўная праблема застанецца.

Часам кажуць нашы патрыёты: маўляў, мы Данбас забярэм, пасля Кубань. А я кажу: навошта вам Кубань? Усю Расію забярыце — Расія згодная, напрыклад, далучыцца, нават сталіцу ў Кіеве можна зрабіць. Толькі тады ад Украіны нічога не застанецца. Далучаць тэрыторыі, якія будуць фактарам чужой ментальнасці — самагубства.

### «Мы перабольшваем вартасць тэрыторый»

***— Вайна з Расіяй у той ці іншай форме цягнецца стагоддзямі. Ці будзе ў яе канец?***

— Канец будзе тады, калі Расійская імперыя развaліцца канчаткова. Я перадумоваў такога развалу пакуль не бачу. Ад санкцый Захаду супраць Масквы, па-мойму, пакуль больш пакутуе Захад, а не Масква. Ментальна «кацап» моцны: ён згодны галадаць, як тыя ж крымчакі. «Только бы умереть в России!» Мы брэшам сабе пра тое, што яны там аб нечым ужо шкадуюць. Ніхто не шкадуе! І на Данбасе не шкадуюць. Яны хочуць свайго, любым коштам.

З іншага боку, я не бачыў і блізкага развалу Савецкага Саюза. А ён развaліўся. Дай Бог, каб і тут так атрымалася. Але калі развaліцца гэтая імперыя, ведаеш, колькі будзе праблемаў? Хваля бежанцаў паедзе сюды...

Гэтая вайна надоўга. Яна будзе трываць і ў самой Украіне, і на мяжы з Расіяй, калі яна пачне распадацца. Гэта ж вайна не за межы, мы перабольшваем вартасць тэрыторыяў. Ёсць тэрыторыя духу. У XXI стагоддзі мы маем змагацца не столькі за кавалачак зямлі, колькі за ўласную прастору. Твая прастора там, дзе твая мова, твая культура, твой уплыў, а чыя мова — таго і праўда, таго і ўлада.

# Хвароба па ўласнай ініцыятыве

Генадзь ШЭРШАНЬ

**Калі ж яшчэ ўзгадаць пра здароўе і лекараў, як не напярэдадні Дня медыцынскага работніка.**

Ці ведаеце вы, што сярэднестатыстычны дарослы грамадзянін Беларусі мае ад трох да сямі хранічных хвароб? Гэта значыць, што ў Беларусі фактычна няма здаровых людзей! Няўжо гэта невядома чыноўнікам з Міністэрства аховы здароўя, якія пра такое становішча абавязаны ведаць па службе? Няўжо падобны факт не варты ўвагі ніводнага з нашых шматлікіх грамадскіх дзеячаў?

Але чыноўнікі яшчэ з 30-х гадоў мінулага стагоддзя захоплены міфічнай папяровай барацьбой за паказчыкі здароўя насельніцтва — за 0% смяротнасці цяжарных, парадзіх, нованароджаных, немаўлят. Грамадскіх дзеячаў жа цікавяць іншыя, на іх думку, больш важныя і актуальныя праблемы. Атрымліваецца, што здароўе нацыі ўсім — «да лямпачкі».



А вось яшчэ крыху цікавых лічбаў: нават калі хвароба ператвараецца ў хранічную, толькі 57% хворых звяртаюцца па дапамогу да лекараў. Амаль палова апытаных (47%) лічыць за лепшае пазбаўляцца ад хвароб самім. Мяркую, гэта наступствы «эфектыўнасці» нашай сістэмы аховы здароўя. І відавочна, што адным вялікадзяржаўным загадам («У паліклініках не павінна быць чэргаў») і электроннымі квіткамі да лекараў праблему хранізацыі насельніцтва ніхто ніколі не вырашыць.

Ва ўсе часы хворыя шукалі «лепшых» лекараў. Наш час — не выключэнне. Іншы раз падобныя пошукі вартыя анекдота. Днямі мне патэлефанаваў стары знаёмы, дасведчаны чалавек, кандыдат навук, які сочыць за сваім здароўем.

— Слухай, — сказаў ён. — Учора крышку пераеў, дык сёння замучыла пякотка (вось вам і прычына нездароўя — сквапнасць: «пераеў». — аўт.). У папулярным амерыканскім даведніку ў такіх выпадках раяць прымаць наступныя прэпараты...

— Амерыканцы шмат што раяць, — перабіў я яго. — Перш за ўсё, наўрад ці гэтыя прэпараты ты знойдзеш у Мінску.

— Так, — пагадзіўся знаёмы. — У аптэцы мне далі «Смекту».

— Можна і «Смекту», — пагадзіўся і я.

— Але ў тваёй кніжцы ёсць такая парада: піць цёплае малако.

— Так. Да цёплага малака можна дадаць скібачку белага батону, — было маё удакладненне.

— Чаму?

— Ну, хаця б таму, што яшчэ Гіпакрат казаў: «Няхай твая ежа будзе табе лекамі, а лекі ежай».

— А калі я зараз вып'ю «Смекту», а потым зраблю, як ты раіш?

— Рабі што-небудзь адно! — адрэзаў я, бо ўжо пачаў губляць цярпенне.

Як тут не прыгадаць словы аднаго вершапісца: «Калі хочаш доўга жыць, не прыкладай да забалелай галавы ўсе карысныя парады». Што тычыцца майго знаёмага, то сваімі неабдуманымі, бессістэмнымі дзеяннямі ён наўрад ці палепшыў бы свой стан (лёгкае парушэнне функцый страўніка), затое з вялікай верагоднасцю мог набыць гастрыт.

А вось павевы новага часу. «Да лекара ходзяць, каб пачуць, як хвароба называецца, а потым чытаць пра яе ў інтэрнэце». Яшчэ адно прызнанне. «Я хлопец кемлівы, сам усё «пагугліў», пашукаў у інтэрнэце сімптомы… І сам сабе паставіў дыягназ».

У выніку ўсё часцей кабінет лекара ператвараецца ў кабінет следчага, у якім падследным становіцца лекар, а следчым — пацыент, які патрабуе ад «падследнага» адказваць за ўсё на свеце, таму што ён, лекар, — «абавязаны». Ад гэтакіх «дыялогаў» патыхае нявыхаванасцю і саўковасцю. Яны з самага пачатку асуджаны на нулявы вынік. Прайшлі тыя часы, калі з існуючых у краіне спецыялістаў толькі ў лекараў заўсёды быў прафесійны абавязак, які кожны пацыент разумеў па-свойму, па меры сваёй выхаванасці і адукаванасці.

Грэблівае стаўленне да лекараў многіх вельмі абурала і абурае. Ненармальныя адносіны паміж пацыентамі і лекарам наносілі, наносяць і будуць наносіць непапраўную шкоду абодвум суразмоўцам. У большай ступені — «дасціпным» пацыентам. Напэўна варта нагадаць старажытную ўсходнюю прытчу. Прыйшоў хворы да лекара, а той яму кажа: «Нас тут трое: ты, я і хвароба. Калі мы будзем разам, мы пераможам трэцяга». Хто будзе трэці — лекар ці хвароба — вызначаць пацыенту.

# Капрамонтныя пакуты

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Мінчанін Ігар Васільеў сцвярджае, што падчас капрамонту яго падвал пакінулі разбураным, а рэчы з яго — скралі.**

Чатыры гады жыхары дома №16 па вуліцы Фабрычнай у Мінску чакалі капітальнага рамонту — першага для дома, збудаванага яшчэ ў сярэдзіне XX стагоддзя. Нарэшце сёлета ў сакавіку рамонт распачалі, аднак далёка не ўсе задаволеныя тым, як ідуць працы. Мясцовы жыхар Ігар Васільеў звярнуўся ў «Новы Час», каб падзяліцца сваёй бядой і знайсці падтрымку.

«Будаўнічая арганізацыя пачала рамонт з таго, што рабочыя разламалі ўсе падвалы — маўляў, там знаходзяцца стаякі водазабеспячэння і каналізацыі, якія трэба замяніць. Падвалаў у пад'ездзе дваццаць, а стаякі месцяцца ўсяго ў чатырох з іх (у маім падвале стаяка няма). Я ім (будаўнікам. — Т.Ш.) кажу — калі вам трэба, падыдзіце да мяне, я вам адчыню падвал. Не пакідаць жа дзверы наўпрост раскрытымі! А вынесці рэчы, якія там захоўваюцца, мне няма куды. Прайшоў дзень, два, тры — нікога няма. А пасля прыйшлі рабочыя і ламамі паразбівалі дзверы і замкі, а ўсё, што было ўнутры — нехта парасцягаў, пакраў...» — распавядае Ігар Васільеў.





Балконныя дзверы, якія ЖЭС адмаўляецца мяняць



Падвал пасля разбурэння



Столь ваннай пасля рамонту

Паводле словаў мужчыны, у падвале на той час захоўваліся старэнькі ровар, невялікі плуг, запасное прыстасаванне для аўтамабіля, вазок. Ігар Васільеў напісаў заяву ў міліцыю, аднак атрымаў адказ, што ягоныя рэчы каштоўнасцяў не ўяўляюць, а таму заводзіць крымінальную справу не будуць.

«Спыталіся, колькі я хачу кампенсацыі. Я кажу — тры мільёны. Яны — ой, гэта шмат, вашы рэчы столькі не каштуюць. Тым больш, ровар стары. Стары-та стары, але дзе ж мне цяпер хоць стары ўзяць? Так гэтую справу і замялі», — абураецца Ігар Васільеў.

Цяпер ад мужчыны патрабуюць разбіць шкло на балконе: «Балкон у мяне зашклёны — яшчэ ў 90-я гады за свой кошт усталявалі ў рамах шкло, бо балконныя дзверы моцна прадзьмувала, а батарэя ля балкона амаль не грэе. Цяпер ім гэтае шкло таксама замінае выконваць нейкія працы, але ўжо ламаць баяцца, бо ведаюць, што я ў міліцыю звярнуся. Выслалі прадпісанне — маўляў, не зламаеце самі, пададзім у суд. Пры гэтым мяняць драўляныя рамы, якія за паўстагоддзя струхлелі, ніхто не збіраецца. І батарэю ля балкона гатовыя рамантаваць толькі за мой кошт. Атрымліваецца, я павінен сам усё разбіць, пасля сам усё наноў зашкліць — і гэта яны так правялі капрамонт?»

У Ігара Васільева маюцца і іншыя прэтэнзіі да супрацоўнікаў ЖЭСа. Мужчыну турбуе, што ў кватэры холадна, аднак кіраўнік ЖЭСа адмовіў у рамонце ацяпляльнай сістэмы (толькі за свой кошт) — маўляў, 19 градусаў цяпла мінімальная, аднак дапушчальная тэмпература. І гэта нягледзячы на тое, што ў кватэры пражывае старэнькая бабуля — маці Ігара Васільева, а ў суседзяў з іншых паверхаў — 22 градусы цяпла.

«На калідоры старыя скрыні ад лічыльнікаў выламалі, паставілі новыя металічныя. А лічыльнікі засталіся старыя, у новыя скрыні не ўлезлі. Пішуць — маўляў, вы павінны за паўмільёна набыць новы лічыльнік. Дык гэта ж вы самі рабілі, вы ж маглі адразу паглядзець, якія там лічыльнікі, ці падыдуць яны для новых скрыняў. У ваннай прабілі перакрыцці, мянялі стаякі, дзіркі замазалі бетонам. Гідраізаляцыю ніхто не праводзіў, сапсаваныя столі не перафарбоўвалі. З-за будаўнічых прац дзе-нідзе адвалілася кафля, ніхто яе аднаўляць, канешне, не збіраецца. У мяне працякала ванная, папрасіў паправіць — пытаюць, кватэра прыватызаваная? Значыцца, плаціце. Дык я ж вам з года ў год штомесяц плачу немалыя грошы на «капрамонт», на тэхабслугоўванне!» — усклікае Ігар Васільеў.

Паводле слоў мужчыны, іншыя жыхары вырашылі не пераймацца сваркамі з ЖЭСам і аплочваюць рамонт самі: «Ім усё да лямпачкі. Яны ціха і спакойна ўсё мяняюць за свой кошт».

Камусьці праблемы Ігара Васільева могуць падацца дробнымі — маўляў, чаго перажываць з-за падвала і балкона, аднак такіх сітуацый хапае ў кожным доме, які дажыў да капрамонту. І ніхто з чыноўнікаў дагэтуль ясна не адказаў, чаму яшчэ некалькі гадоў таму падчас капітальнага рамонту жыхарам мянялі рамы, клалі новую кафлю ў калідорах, ставілі драўляныя шклопакеты, а цяпер усё звялося да замены пары-тройкі труб? Адказ відавочны — няма грошай. Але чаму крайнімі выходзяць жыхары, якія спраўна шмат гадоў плацілі грошы на рамонт?

**Старыя скрыні ад лічыльнікаў выламалі, паставілі новыя металічныя. А лічыльнікі засталіся старыя, у новыя скрыні не ўлезлі**

У Ігара Васільева сваё пытанне, якое ён задаваў некалькі разоў за нашу размову: «Ці адносяцца жыхары дома №16 па вуліцы Фабрычнай да катэгорыі «беларускі народ», пра які клапоціцца наша адміністрацыя?»

Беларусь Эканамічная

Выпуск №1
(чэрвень)

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

2 ВЫСОКАЯ ТУРБУЛЕНТНАСЦЬ НА МАКРАЭКАНАМІЧНЫМ ФРОНЦЕ




3 СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ: НАЦБАНК МОГУЦЬ ПРЫМУСІЦЬ УКЛЮЧЫЦЬ ДРУКАРСКІ СТАНОК

# Дэнамінацыя: трэці заход



Аксана КОЛБ

**У пятніцу, 1 ліпеня, мы прачнёмся з новымі грашыма. Гэтым разам з купюр не проста прыбяруць чатыры нулі. Мы ўбачым прынцыпова новыя банкноты ды яшчэ і манеты. У найноўшай гісторыі незалежнай Беларусі металічных грошай яшчэ не было.**

Больш сталае пакаленне яшчэ памятае савецкія манеты, а хтосьці можа і настальгуе па запалках за 1 капейку. А моладзь трымала ў руках іншыя металічныя грошы: злотыя, літы, расійскія рублі, еўра. Дарэчы, новыя беларускія грошы чымсьці падобныя на еўра.

З моманту атрымання незалежнасці мы будзем сведкамі ўжо трэцяй дэнамінацыі беларускага рубля. За амаль 25 гадоў мы развіталіся з васьмю нулямі. То бок наша грашовая адзінка абясцэнілася ў сто мільёнаў разоў.

Прапаную ўзгадаць, як гэта было.

Першыя самастойныя грошы сучаснай Беларусі з’явіліся 25 мая 1992 года — гэта былі купюры ў 50 капеек, 1, 3, 5, 10, 25, 50 і 100 рублёў, на якіх адлюстравалі розных жывёл ад вавёркі да зубра.

Афіцыйна адзін беларускі рубель быў роўны 10 савецкім рублям. Але пакуль купюры рыхтавалі да ўводу ў абарачэнне, інфляцыя вырасла, так што ўлады вырашылі завысіць пакупніцкую здольнасць «зайчыкаў» у дзесяць разоў па прынцыпе «адзін пішам, нуль у розуме». Банкнота ў 1 рубель на самай справе каштавала 10 рублёў, а купюра ў 100 рублёў лічылася за тысячу. Для дробных наміналаў у 1, 3 і 5 рублёў выкарыстоўваліся савецкія грашовыя знакі. Гэта значыць, пяць савецкіх рублёў можна было абмяняць на 50 новых беларускіх капеек, аднак гэтыя ж 50 капеек лічыліся як 5 новых рублёў — і гэтак жа ў якасці пяці новых рублёў можна было выкарыстаць усе тую ж старую савецкую купюру ў 5 рублёў. А вы думалі, што гэта зараз можна будзе заблытацца?

Аднак і гэта былі не ўсе складанасці. Яшчэ ў студзені 1992-га прыдумалі купоны. Іх выпускалі на лістах памерам са сшытак. Гэтыя лісты ўтрымлівалі купоны на суму ў 20, 50, 75, 100, 200 і 300 рублёў. Купоны выкарыстоўвалі для таго, каб замежнікі з былых саюзных рэспублік не маглі скупіць за былыя ж савецкія рублі ўсе тавары ў крамах Беларусі. Так што прадаўцы выразалі з купонных лістоў квадрацікі на суму пакупкі. Колькасць рублёвых купонаў, якія выдаваліся грамадзяніну, была меншай, чым колькасць рублёў заробку. Без купонаў людзі маглі набыць тавары па камерцыйных коштах.

Нарэшце, 20 жніўня 1994 года прайшла першая ў гісторыі незалежнай Беларусі дэнамінацыя. З купюр прыбралі неіснуючыя нулі. То бок, калі на купюры было напісана 1 рубель, гэта і быў 1 рубель, а не 10 рублёў. Дарэчы, яшчэ ў снежні 1992-га спатрэбіліся банкноты большай вартасці, і таму выпусцілі паперкі ў 200 і 500 рублёў. Але паколькі жывёл больш буйных, чым зубр, у Беларусі не знайшлося, дык надрукавалі краявіды Мінска — Прывакзальную плошчу і плошчу Перамогі.




У лістападзе 1993-га дадрукавалі яшчэ 1000 рублёў (Акадэмія навук), а ў красавіку 1994-га — 5000 рублёў (Траецкае прадмесце). Пасля былі 20 000, 50 000, 100 000. У снежні 1998-га з’явіліся 500 000 рублёў (мінскі Палац культуры прафсаюзаў), у красавіку 1999-га — 1 000 000 рублёў (Нацыянальны мастацкі музей) і, нарэшце, у верасні 1999-га — 5 000 000 рублёў (Палац спорту ў Мінску і спартыўны комплекс Раўбічы). На пяць мільёнаў можна было набыць тады каля 18 долараў.

Першага студзеня 2000 года ў Беларусі адбылася другая дэнамінацыя. З банкнот прыбралі па тры нулі. Найменшая купюра, якая дайшла да нашых дзён, гэта 100 рублёў (былыя 100 000). Старым банкнотам змянілі каляровае афармленне, заадно выпусцілі новыя наміналам у 10 рублёў, на якой адлюстравалі будынак тагачаснай Нацыянальнай бібліятэкі.

Ужо ў красавіку 2001 года выпусцілі купюру ў 10 000 рублёў (малюнак Віцебска), а ў канцы студзеня 2002-га — 20 000 (Гомель). Як бачна, дэнамінацыя не моцна дапамагла беларускай грашовай адзінцы. Асабліва калі ўзгадаць, што ў снежні таго ж года выйшла купюра ў 50 000 рублёў (Мірскі замак). Дарэчы, у мікратэксце дапусцілі памылку: замест «Мірскі замак» напісалі «Мирскі замак».

Яшчэ праз два з паловай гады, у сярэдзіне ліпеня 2005-га, з’явіліся 100 000 рублёў (Нясвіжскі палац). А 12 сакавіка 2012-га — 200 000 рублёў (Магілёўскі абласны мастацкі музей). Цікава, што на гэтай купюры няма абавязковага для ўсіх ранейшых банкнот надпісу «Падробка пераследуецца па законе».

Падчас абмеркавання самастойнай беларускай валюты ў пачатку 1990-х было прапанавана нямала розных варыянтаў. Кажуць, што новыя грошы нават ужо былі надрукаваныя. Па словах экс-прэм’ера Беларусі Міхаіла Чыгіра, уводу паўнавартаснай беларускай валюты ў абарачэнне перашкодзіла палітыка. У 1994 годзе да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка, а ў 1995-м ён правёў рэферэндум, на якім, у тым ліку, была змененая дзяржаўная сімволіка. «А грошы былі са старой сімволікай — бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня». І, зразумела, гэтыя грошы ў абарачэнне не пайшлі», — кажа былы прэм’ер Беларусі.

Такім чынам праз 24 гады і восем нулёў мы нарэшце будзем бразгаць манетамі ў гаманцах. Пытанне, ці доўга… Некаторыя эксперты прагназуюць, што ўжо праз год беларускія манеты знікнуць з абарачэння з-за інфляцыі.




Фота www.varjag.net

«ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 | 17 чэрвеня 2016 | № 24 (489) Новы Час

# Высокая турбулентнасць на макраэканамічным фронце

Алесь ЧАРНЯК

**Па просьбе «Новага Часу» эксперт па эканоміцы аналітычнага цэнтру «Ліберальны клуб» Антон Болтачка пракаментаваў манетарную палітыку ўладаў Беларусі. Эксперт перакананы, што Нацбанк збольшага праводзіць слушную лінію, але аздараўленне эканомікі будзе магчыма, калі гэтую лінію падтрымае Саўмін і распаўсюдзіць на рэальны сектар.**



Антон Болтачка

***— Беларускі ўрад сцвярджае, што ў краіне забяспечана фінансавая і валютная стабільнасць, вы з гэтым згодны?***

— Пакуль мы не можам канстатаваць дасягнення ў Беларусі макраэканамічнай стабільнасці, якая праяўляецца ў нізкім узроўні інфляцыі і слабых флуктуацыях курса нацыянальнай валюты. Традыцыйна лічыцца, што інфляцыя ніжэй за 3% — джэнтльменскі ўзровень гэтага паказчыка для краіны. Улічваючы структуру эканомікі Беларусі — вялікая колькасць дзяржаўных прадпрыемстваў, якія патрабуюць фінансавай падтрымкі на тле адсутнасці палітычнай волі па іх банкруцтву, — джэнтльменскі ўзровень для нашай краіны не мусіць перавышаць 10%. Але гэтага пакуль няма!

Нагадаю, што ў Беларусі толькі тры разы інфляцыя мела адназначнае выражэнне — у 2005, 2006 і 2010 гадах. Што тычыцца курса беларускага рубля, то беларусы і без экспертаў і аналітыкаў ведаюць, што з пачатку года ён паспеў вырасці да 22 тысяч BYR / USD і вярнуцца да 19 тысяч BYR / USD. Ваганні ў 15% — гэта відавочна не паказчык стабільнасці.

Такім чынам, пакуль мы знаходзімся ў сітуацыі высокай турбулентнасці на макраэканамічным фронце.

***— Беларусь своечасова разлічваецца па валютных даўгах, і пры гэтым захоўвае гнуткі абменны курс нацыянальнай валюты — сцвярджаў першы віцэ-прэм'ер Беларусі Васіль Мацюшэўскі. Пры гэтым, у адпаведнасці з першай ацэнкай Белстату, валавы нацыянальны прадукт (ВУП) Беларусі ў студзені — красавіку 2016 года ў бягучых цэнах складаў 293,1 трыльёна беларускіх рублёў, або ў супастаўляльных цэнах — 97% да ўзроўню леташніх студзеня — красавіка. Ці ў слушным кірунку рухаецца ўрад, і куды ўсё ж такі прыйдзем?***

— Гэта досыць складанае пытанне, бо яно шматграннае. Без стомы паўтараю тэзіс, які заключаецца ў тым, што катэгорыя «слушны», «правільны» ў беларускай эканамічнай сістэме мае дваякае значэнне.

З аднаго боку, «правільнай эканамічнай палітыкай» мусіць з'яўляцца тая палітыка, якая адпавядае станоўчаму досведу іншых краін (гэта значыць, эмпірычны матэрыял) і тэарэтычнаму базісу эканамічнай навукі (гэта значыць, тэарэтычны матэрыял). Пакуль у гэтым вымярэнні эканамічныя ўлады крыху аддаленыя ад узроўню «правільны».

З другога боку, існуюць і ідэалагічныя межы, якія не дазваляюць выкарыстоўваць усе напрацоўкі (і эмпірычнага, і тэарэтычнага матэрыялу) у нашай краіне. Аднак з улікам гэтых абмежаванняў па асобных кірунках урад і Нацбанк робяць шмат што (збольшага гэта адносіцца да Нацбанку, а не да ўраду). Для фармавання некаторага кансенсусу паміж «правільным» і «дазволеным» пакуль нестае адкрытага дыялогу, які б дазволіў прыйсці да агульнага (ці прынамсі наблізіцца да гэтай пазіцыі) меркавання.

Калі ж паспрабаваць коратка ацаніць, што робіць Нацбанк і ўрад, то ўсё ж такі можна сфармаваць некаторы адказ. Нацбанк спрабуе ўтрымаць фінансавую сістэму ад магчымых крызісных з'яў: таргетуе грашовую масу, кантралюе пытанні працэнтных ставак і г. д. Гэта, канечне, аказвае сур'ёзны ўплыў на рэальны сектар эканомікі.

У той час урад занадта паволна рэфармуе гэты самы рэальны сектар: пакуль стымулы для дзелавой актыўнасці ў прыватным сектары недастатковыя; дзяржаўныя прадпрыемствы працягваюць генераваць страты і г. п. Канечне, можна скардзіцца толькі на манетарныя фактары — высокія працэнтныя стаўкі, — але стымулы мусяць быць такімі, каб бізнес не баяўся рызыкаваць сваім уласным капіталам (нават калі яго валавое накапленне ў Беларусі не такое вялікае, як у іншых краінах). Пакуль прадпрымальнікі будуць ацэньваць рызыку па дзесяцібальнай шкале і даваць максімальную ацэнку рызыкі 10 балаў, мы не будзем назіраць за сапраўднай балансіроўкай сістэмы.

***— Нацбанк зніжае стаўку рэфінансавання і стаўкі па стала даступных аперацыях падтрымкі і прадастаўлення ліквіднасці і тлумачыць гэта ў тым ліку пазітыўнымі вынікамі барацьбы з інфляцыяй, а потым выдае рэкамендацыі банкам паменшыць стаўкі па дэпазітах. Ці зробяць гэтыя меры больш даступнымі крэдыты? Ці захаваецца прывабнасць укладаў у беларускіх банках?***




— Зараз гэтае пытанне не мусіць хваляваць насельніцтва. Так, у банкаўскім сектары ёсць свае праблемы, свае рызыкі. Нацбанк імкнецца іх неяк вырашыць (пры гэтым нагадваю пра ідэалагічныя межы, у якіх ён працуе). Я перакананы, што многія гульцы на рынку напагатове вытрываць гэтыя абмежаванні, калі яны павераць у пазітыўныя змены ў будучыні. Пакуль Нацбанк фактычна пераконвае іх аўтарытэтам каманды на чале з Паўлам Калаурам і яго намеснікамі.

Аднак доўга гэта працягвацца не можа — патрэбны змены і ў сферы рэальнага сектара. У адваротным выпадку запэўніваю: у краіне будзе яшчэ адзін крызіс — фінансавы. Прапаную паглядзець на гэта ў першым набліжэнні.

Нацбанк упершыню за 25 гадоў здолеў устрымацца ад грашовай эмісіі, якая спараджала высокую інфляцыю. Здавалася б, тэмпы інфляцыі мусяць знізіцца. Яны сапраўды знізіліся — глядзіце статыстыку.

Аднак скараціць інфляцыю з дастаткова высокага ўзроўню (у 20–30%, і нават у 80–100%) да 10–15% — гэта менш складаная задача, чым задача давесці яе да 2–3% у год (для Беларусі — хаця б 5–6%). Тут не абыдзешся выключна манетарнымі інструментамі. Неабходна ў цэлым рэфармаваць інстытут цэнаўтварэння. А Мінгандль да гэтага часу працягвае ў ручным рэжыме кантраляваць прадпрымальнікаў, якія ўстанаўліваць цэннік на паліцах у крамах.

Або працэнтныя стаўкі па крэдытах. Ёсць меркаванне, што яны высокія, бо Нацбанк праводзіць занадта жорсткую грашова-крэдытную палітыку. Але прычына ў іншым: дагэтуль у краіне захоўваецца льготнае крэдытаванне, калі стаўкі па крэдытах для дзяржаўных прадпрыемстваў у разы ніжэй за рынкавыя.

Хто аплачвае гэтую розніцу? Пытанне пэўна рытарычнае. Таму і ў гэтым выпадку ўсё ўпіраецца ў змену падыходаў да кіравання не манетарнай палітыкай, а рэальным сектарам эканомікі, што з'яўляецца вотчынай ураду на чале з Андрэем Кабяковым.

Але я не гатовы цалкам апраўдаць манетарныя (ададзім сюды яшчэ і фіскальныя) улады. Тое, што яны робяць са скарачэннем рызыкі ў фінансавай сістэме праз павелічэнне ўнутранага і знешняга дзяржаўнага доўгу — гэта патрабуе сур'ёзнага крытычнага аналізу. Такім чынам адбываецца пабудова дастаткова хісткай асновы для наступнага развіцця краіны. І гэта можа абрынуцца!

У выніку, на сённяшні дзень крытычна важна задумацца пра ўзмацненне кадравага патэнцыялу ўраду. І, як мне падаецца, прыняцце чарговай «пяцігодкі» — цудоўная для гэтага аснова. Старт яе выканання пэўна мусіць быць са зменай Саўміна і кіраўніка ўраду, які за амаль 1,5 гады зарэкамендаваў сябе не з лепшага боку — эканоміка як была ў «чырвонай зоне», так і засталася. Кандыдаты на пасаду кіраўніка ўраду, якія б падтрымалі і змаглі б памножыць поспехі Нацбанку, дакладна ёсць.

***— Станоўчыя вынікі гандлю паслугамі ўжо не перакрываюць адмоўнае значэнне сальда знешняга гандлю таварамі. Ці ёсць падставы лічыць, што ў другім паўгоддзі сітуацыя выправіцца?***

— Калі паглядзець на дынаміку, то можна заўважыць, што адмоўнае сальда за 2015 год значна лепш за аналагічны паказчык 2014 года.

Канечне ж, гэта дасягнута за кошт не нарошчвання экспарту, а за кошт больш хуткіх тэмпаў скарачэння імпарту ў параўнанні з экспартам. Таму глядзець неабходна хутчэй на паказчык аб'ёму паступлення валюты ад экспарту на чыстай аснове. І тут ёсць пытанні. Аб'ём паступлення валюты ад экспарту істотна скараціўся. І гэта таксама аказвае ўплыў на прастору для манеўру манетарных уладаў. Але для таго, каб атрымліваць больш валюты ад экспарту, неабходна — даруйце за чарговы паўтор — працаваць з рэальным сектарам. І не толькі ў форме чарговай рытарычнай тырады ў стылі «працаваць эфектыўней», а ў праўдзівай рэформе ўмоў гаспадарання на беларускай зямлі. Гаворка ідзе не пра прыватызацыю (у цяперашніх умовах яна можа прывесці да незваротных наступстваў, але пра гэта можна пагаварыць іншым разам), а хаця б сапраўднай «замарозцы» любых зменаў у заканадаўстве для бізнесу на тэрмін не менш за 5 гадоў. У выглядзе выключэння можна вітаць змены, якія вядуць да абсалютнага паляпшэння ўмоваў.

Падсумоўваючы, магу сказаць наступнае: слушная манетарная і фіскальная палітыка — гэта не ўсё, што патрабуецца Беларусі для выхаду з крызісу, бо перабудовы патрабуе ўся эканамічная сістэма, але рабіць гэта трэба адкрыта, без кулуарных гульняў. Гэта пакуль гучыць не рэалістычна для нашай краіны.

- Стаўка рэфінансавання — стаўка Нацыянальнага банка, якая з'яўляецца базавым інструментам рэгулявання ўзроўню працэнтных ставак на грашовым рынку і служыць асновай для ўстанаўлення працэнтных ставак па аперацыях прадастаўлення ліквіднасці банкам. Па гэтай стаўцы Нацбанк дае крэдыты камерцыйным банкам.
- Валавы ўнутраны прадукт (ВУП) — абагульнены эканамічны статыстычны паказчык; паказвае сукупны кошт усіх тавараў і паслуг, створаных у межах краіны як рэзідэнтамі, так і нерэзідэнтамі. З'яўляецца адным з базавых паказчыкаў эканамічнага развіцця краіны.
- Рэальны сектар эканомікі — сукупнасць галінаў эканомікі, якія прадукуюць матэрыяльныя і нематэрыяльныя тавары і паслугі, за выключэннем фінансава-крэдытных і біржавых аперацый (апошнія адносяцца да фінансавага сектара эканомікі).



# Станіслаў Багданкевіч: Нацбанк могуць прымусіць уключыць друкарскі станок

**Насельніцтва Беларусі на парозе дэнамінацыі. Ці паўплывае яна на эканамічную палітыку дзяржавы, ці чакаць нам яшчэ і дэвальвацыі, ды наогул ці прыспеў час для дэнамінацыі — пра гэта разважае экс-старшыня Нацбанка Беларусі (1991–1995) Станіслаў Багданкевіч.**



Першыя самастойныя грошы сучаснай Беларусі з'явіліся 25 мая 1992 года — гэта былі купюры ў 50 капеек, 1, 3, 5, 10, 25, 50 і 100 рублёў, на якіх адлюстравалі розных жывёл — ад вавёркі да зубра



Яшчэ ў снежні 1992-га спатрэбіліся банкноты большай вартасці, і таму выпусцілі паперкі ў 200 і 500 рублёў, на іх надрукавалі краявіды Мінска — Прывакзальную плошчу і плошчу Перамогі

***— Старшыня Нацбанка Надзея Ермакова пра дэнамінацыю выказвалася так: «Трэба аднавіць цалкам эканоміку, грашова-крэдытную сістэму ўсю прывесці ў парадак, каб у нас і працэнтныя стаўкі былі нармальныя, тады можна будзе казаць пра дэнамінацыю. Любая дэнамінацыя ўсё роўна прыводзіць да росту інфляцыі». Дэнамінацыя адбудзецца 1 ліпеня. Няўжо ў нас зараз усё добра з эканомікай?***

— Дэнамінацыя — гэта ўзбуйненне грашовай адзінкі. У цяперашнім выпадку — у дзесяць тысяч разоў. Такі крок вядзе да скарачэння ў абароце грошай. То бок гэта толькі тэхнічная змена. Калі гаварыць пра ўплыў на эканоміку, то хіба што ён толькі псіхалагічны. Рубель будзе каштаваць дорага. Напрыклад, адзін долар будзе каштаваць два рублі. Магчыма, гэта падвысіць давер людзей да нацыянальнай валюты, больш пачнуць ашчаджаць менавіта ў беларускіх рублях.

Мяркую, на інфляцыю гэта асабліва не паўплывае. Хіба што на 0,5–1 працэнтны пункт. Інфляцыя ў нас і без гэтага адбываецца. Да слова, ад пачатку ўвядзення беларускага рубля грашовая адзінка абясцэнілася ў сто тысяч разоў. Мы тройчы праводзілі дэнамінацыю: спачатку ў 10 разоў, потым у 1000 разоў і цяпер — у 10 000 разоў. Дэнамінацыя, канешне, выкліканая нездавальняючай эканамічнай, манетарнай палітыкай. Кіраўніцтва выкарыстоўвала друкарскі станок, каб плаціць заробкі, аплачваць выдаткі ды іншае. Але грошай мусіць быць столькі, колькі выробляецца тавару. Пустыя грошы вядуць да стагнацыі эканомікі.

***— Улады цяпер прытрымліваюцца палітыкі абмежавання росту заробкаў і тэмпаў росту рублёвага крэдытавання. З улікам таго, што не праводзіцца ніякіх структурных змен, да чаго могуць прывесці гэтыя захады?***

— Само сабой, трэба плаціць заробак у межах заробленай вартасці. Але нашы рэаліі такія, што намінальны заробак расце, а вытворчасць падае. Гэта ўсё вядзе да інфляцыі, абясцэньвання нацыянальнай валюты. За мінулы год вытворчасць упала на 3,9%, і сёлета толькі за першы квартал — больш чым на 3%. Па правілах, заробак таксама мусіць упасці. Калі ж намінальны заробак наадварот павялічваюць, то гэта вядзе да росту цэн. Праўда ў тым, што наша эканоміка патрабуе рэформ. Структурныя пераўтварэнні трэба пачынаць з таго, што перастаць выраблять прадукцыю, якая неканкурэнтаздольная.

Я паглядзеў спіс самых стратных прадпрыемстваў — там прамысловыя гіганты, як «Гомсельмаш», БМЗ. Эканамічная палітыка ў нас неразумная. А вось палітыка Нацбанка больш-менш разумная, бо ён спрабуе абмежаваць выпуск пустых грошай. Праўда, не надта жорстка дзейнічае. Бо грашовая маса ўсё адно расце, хай сабе і не такімі тэмпамі як пры ранейшым кіраўніцтве. Але ж гэтую грашовую масу немагчыма спыніць, бо людзям трэба плаціць заробак, інакш яны ўладу паднімуць на вілы.

***— Што трэба, каб адчуць станоўчы эфект ад дэнамінацыі, калі ён наогул магчымы?***

— Пачынаць трэба са зніжэння падаткаў, каб прадпрыемствы мелі грошы для новых тэхналогій. У нас жа ўсё наадварот — Міністэрства фінансаў і ўрад увесь час шукаюць, якія б яшчэ новыя падаткі ўвесці. Трэба скараціць дзяржаўныя выдаткі, што не нясуць прыбытку. Гэта аплата сілавых структур, аховы прэзідэнта і падобнага. Трэба палітычная воля, каб закрыць стабільна стратныя прадпрыемствы, але і разам з тым ствараць новыя. У Рыме Лукашэнка гаварыў правільныя словы, што да 90% ВУП Італіі стварае малы і сярэдні бізнес. А ў нас гэты бізнес у загоне.

Увогуле, трэба змяніць наш стары ўрад, прыцягнуць новых кіраўнікоў, можа быць, адправіць іх на навучанне ў Еўропу. Паставіць перад дырэктарамі прадпрыемстваў задачы забяспечыць прыбытак і рэнтабельнасць…

***— У свой час вы таксама праводзілі дэнамінацыю. Тады ўмовы былі больш спрыяльнымі?***

— Мая дэнамінацыя была не такой, як цяпер. Мы тады выпусцілі нацыянальныя «зайчыкі» ў суадносінах 10 да 1 савецкага рубля і заблыталі гэтым насельніцтва. Чалавек распісваўся за тысячу, а атрымліваў сто. Чаму мы зрабілі такую бязглуздзіцу? Дзякуючы Расіі. Расія не паведаміла нам і ўвяла расійскі рубель, а нам наяўных грошай не далі. Кебіч да таго часу выдаў карткі, каб людзі маглі купляць па заніжаных коштах прадукты і тавары. Хаос на нацыянальным рынку трэба было спыняць, мы забралі савецкія грошы па курсу 10 да 1, прывязаўшы іх да колькасці выпушчаных раней «зайчыкаў». Дэнамінацыя — гэта заўсёды вымушаная мера, а не жаданне ўладаў проста так праводзіць рэформу з затратамі.

***— Які курс беларускага рубля ў дачыненні да долара вы спрагназавалі б да канца года?***

— Галоўны паказчык эканомікі — інфляцыя, а не валютны курс. Калі расце кошт долара, то выгодна развіваць нацыянальную эканоміку. Гэта нават карысна для ўнутранага рынка, насельніцтва, дзяржавы. Канешне, калі інфляцыя не будзе расці, то і курс будзе ўстойлівым. Многія эканамісты, у тым ліку і я, прагназавалі, што курс долара будзе працягваць расці. Але, як бачыце, ён спыніўся. Мы памыліліся, бо не чакалі, што Нацбанк вытрывае ціск уладаў з патрабаваннямі выдаваць грошы стратным прадпрыемствам, каб падтрымаць іх. У выніку грашовая маса ў рублях нават скарацілася.

Але для перамогі над інфляцыяй жорсткай манетарнай палітыкі недастаткова. Патрабуецца ажыўленне эканомікі, рост аб'ёмаў вытворчасці, рост ВУП. Калі захаваецца палітыка Нацбанка, не будзе вялікага росту курсаў валют. Але ўлады, ратуючы свой імідж, з імкненнем не дапусціць вялікага беспрацоўя могуць прымусіць уключыць друкарскі станок. Тады ўсё будзе выглядаць інакш.

Не так даўно я быў на круглым стале ў Нацбанку, Калаўр ды іншыя кіраўнікі Нацбанка гаварылі, што не дапусцяць росту грашовай масы. Яны спасылаліся на тое, што, калі будзе галапіруючая інфляцыя больш за 12%, то давядзецца несці персанальную адказнасць. Але ёсць вялікія праблемы. Напрыклад, БМЗ пры нулявым прыбытку мае запазычанасці па крэдытах у 1 мільярд долараў. З чаго іх аддаваць? Баюся, ціск на Нацбанк будзе павялічвацца.

Таксама ўстойлівасць рубля залежыць і ад таго, ці дадуць нам крэдыты на выплату пазыкаў — сёлета на гэта патрэбна 4 мільярды долараў.

***— Ці прыслухоўваюцца да вашага меркавання ў Нацбанку?***

— Падчас апошняга абмеркавання я сказаў, што падтрымліваю палітыку Нацбанка прыкладна на 80%.

***— А што б зрабіў Станіслаў Багданкевіч, калі б узначальваў галоўны банк краіны?***

— Калі б я ўваходзіў у кіраўніцтва Нацбанка, то змяніў бы палітыку ў сферы выдачы крэдытаў. У нас жа 40% крэдытаў выдаецца Банкам развіцця, якім кіруе Сяргей Румас. Гэтыя крэдыты выдаюцца пад 7–9% гадавых стратным прадпрыемствам, астатнія банкі выдаюць пад 40%. У першым выпадку гэта называецца «дырэктыўным крэдытаваннем», а гэта аграмадныя сумы. Нацбанк мусіць наглядаць за ўсімі банкамі дзяржавы, у нашым выпадку ён такой магчымасці не мае. Гэта ненармальна. Нацбанк мусіць цалкам кіраваць грашовай адзінкай. Таксама добра было б, каб Нацбанк выдаў рэкамендацыю не крэдытаваць хранічна стратныя прадпрыемствы. Бо гэтыя крэдыты зноў-такі ідуць на праяданне. Яшчэ момант: нарматыўны капітал банкаў мусіць быць 25 мільёнаў долараў. Але ён улічваецца ў беларускіх рублях. Дэвальвацыя адбылася, капітал у доларавым эквіваленце зменшыўся, а нарматыў выконваецца ж. Вось такія справы. Але пачынаць сапраўдныя рэформы, як я ўжо сказаў, трэба з кіраўніцтва.

# У чаканні новых грошай,
## або Дэнамінацыя ў пытаннях і адказах

Сяргей ПУЛЬША

**Дэнамінацыя — гэта не страшна. Перажылі дзве, перажывём і трэцюю. Але напачатку варта ведаць пра некалькі простых момантаў, а потым і да новых грошай прызвычаімся.**

**? Калі мы ўбачым новыя грошы?**

Не раней 00 гадзін 1 ліпеня. Да гэтага дня ніхто і ні ў якім разе не можа вам прапанаваць абмяняць старыя грошы на новыя. Калі такая прапанова паступіла — гэта махлярства.

**? Як будзе адбывацца абмен?**

Памяняць старыя грошы на новыя можна цалкам бясплатна. Ніякіх дакументаў для гэтага не трэба. Выключэнне, калі вы прыйдзеце ў банк з вельмі буйной сумай — 1000 базавых велічынь і больш (цяпер гэта 210 мільёнаў рублёў). Тады ў вас запатрабуюць пашпарт. Старыя грошы будуць знаходзіцца ў звароце нароўні з новымі да 31 снежня 2016 года, іх абавязаны прымаць усе банкі, крамы, цырульні, кавярні ды іншыя ўстановы. Так што не варта ў першы дзень бегчы і спрабаваць перавесці ўсю зарплату ў новыя купюры, — рэшту ў краме ўсё роўна могуць даць старымі грашыма.

**? Ці можна будзе разлічвацца адначасова двума відамі грошай: напрыклад, суму ў 10 рублёў разбіць на 5 рублёў і 50 000 рублёў?**

Да 31 снежня 2016 года старыя і новыя грошы знаходзяцца ў паралельным звароце, абавязковым да прыёму без абмежаванняў. Да канца года можна адначасова разлічвацца і старымі, і новымі банкнотамі адначасова.

**? У якіх лічбах павінны паказвацца сумы ў чэках пасля 1 ліпеня?**

Перапраграмаванне прылад — працэс доўгі і працаёмкі. Да таго ж, паралельнае хаджэнне грошай ідзе да 31 снежня. Таму чэк будзе выдавацца ў залежнасці ад таго, «перапілаваны» апарат на новыя грошы ці не. Гэта значыць, у адным месцы чэк будзе стары, у іншым — новы.

**? Як адрозніць чэк у дэнамінаваных рублях ад недэнамінаваных? Дапусцім, чалавек купіў тавар на суму 5000 новых рублёў, а пры вяртанні тавару яму выплацяць 5000 старымі, згодна чэку?**

Нацбанк такія нюансы не агаворвае. Сябра ўправы Асацыяцыі прафесійных аўдытараў Святлана Шалудзякова парэкамендавала патрабаваць пацвярджэнне, што лічба ў чэку менавіта такая, бо касавы апарат перапраграмаваны (альбо не перапраграмаваны) пасля дэнамінацыі.

**? З крамамі зразумела, а «жыроўка»?**

Як і цэннікі ў крамах, рахункі павінны мець указанне новых і старых коштаў. Прынамсі, Міністэрства ЖКГ абавяжа падначаленыя арганізацыі пасля дэнамінацыі фармаваць «жыроўкі» менавіта так. Але пакуль няма канкрэтнага рашэння, паказваць у двух варыянтах усе тарыфы, або толькі агульную суму аплаты. Хутчэй за ўсё, дубляваца будзе толькі агульны кошт.

**? Якія грошы можна будзе зняць у банкамаце?**

Гэта залежыць ад таго, пераведзены банкамат на новыя грошы ці не. Да 1 кастрычніка банкі самастойна прымаюць рашэнне аб арганізацыі выдачы ў банкаматах старых ці новых купюр. Пры гэтым банкі павінны будуць павесіць аб'яву, з якімі грашыма той працуе. З 1 кастрычніка ў банкаматах будуць толькі новыя грошы. Нацбанк рэкамендуе банкам для загрузкі банкаматаў выкарыстоўваць банкноты наміналам 5, 10, 20, 50 і 100 рублёў. Банкноты наміналам 500 рублёў (пяць мільёнаў сёння) у банкаматы загружаць не будуць, іх можна будзе атрымаць у банках па папярэднім запыце.

**? Як абмяняць валюту?**

Значэнні курсаў беларускага рубля (BYN) будуць устаноўлены з дакладнасцю да чатырох знакаў пасля коскі. Напрыклад, калі курс 19880 недэнамінаваных рублёў за долар, ён будзе выглядаць як 1,9880 рубля за долар. З улікам акруглення ў касе вам выдадуць 1 рубель 99 капеек.

**? У мяне банкаўская картка ў беларускіх рублях, што будзе з грашыма на ёй?**

Напрыканцы дня 30 чэрвеня 2016 года банкі зробяць разлік рэштаў, у тым ліку па рахунках кліентаў, якім выдадзены банкаўскія аплатныя карткі. Ваша картка пяройдзе на новыя грошы аўтаматычна.

**? Што будзе з дэпазітамі ў беларускіх рублях?**

Сума ўкладу (дэпазіту) з 1 ліпеня 2016 года будзе пераразлічана аўтаматычна. Заключаць нейкія дадатковыя пагадненні да дамоваў банкаўскага ўкладу (дэпазіту) не спатрэбіцца.




**? У мяне крэдыт, што будзе з ім?**

Запазычанасць па крэдыту і працэнтах за карыстанне ім, памер штомесячных плацяжоў з 1 ліпеня 2016 года таксама будуць пераразлічаныя аўтаматычна. Заключэнне дадатковых пагадненняў да крэдытных дамоваў таксама не патрабуецца.

**? Ці будуць прымаць манеты інфакіёскі і іншыя разліковыя прылады?**

Рашэнне аб замене альбо даабсталяванні прылад па прыёме наяўных грошай банкі і іншыя арганізацыі прымаюць самастойна, зыходзячы з тэхнічных магчымасцяў.

**? Калі я не хачу карыстацца манетамі, ці могуць мне абмяняць іх на купюры?**

Як асобная банкаўская аперацыя абмен манет на банкноты не прадугледжваецца. На практыцы і зараз касір можа памяняць дробязь на больш буйную купюру, і наадварот. У той жа час гэта не з'яўляецца яго абавязкам, і ён мае права адмовіць у абмене, бо грашовыя знакі з'яўляюцца законным плацежным сродкам, абавязковым да прыёму, незалежна ад наміналу.

**? Калі ў мяне старыя грошы застануцца пасля 31 снежня?**

З 1 студзеня 2017 года па 31 снежня 2019 года старыя грошы на новыя можна будзе абмяняць у банках краіны. З 1 студзеня 2020 года па 31 снежня 2021-га — толькі ў Нацбанку. Грошы ўзору 2000 года будуць лічыцца несапраўднымі толькі з 1 студзеня 2022 года.



Фота www.bnews.kz

**У законе хапае супярэчнасцяў, якія могуць затармазіць яго імплементацыю. Напрыклад, канфіскаваную зямлю прапануецца не раздаваць, а прадаваць. Цяжка зразумець, адкуль дробныя бедныя чорныя фермеры знойдуць на гэта сродкі**

# Экспрапрыяцыя экспрапрыятараў

*Алег НОВІКАЎ*

**Прыняты парламентам Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) біль аб нацыяналізацыі зямель белых фермераў патэнцыйна запускае працэс самага вялікага передзелу маёмасці ў сучаснай гісторы.**

Як вядома, шырокія палітычныя трансфармацыі ў Паўднёвай Афрыцы на пачатку 1990-х гадоў не тычыліся існуючых на той момант правоў уласнікаў. Паміж палітыкамі быў дасягнуты кансенсус, паводле якога, напрыклад, белыя фермеры, якія кантралявалі большасць зямель у краіне, заставаліся іх уладальнікамі.

Паколькі гістарычна гэта зямля была тэрыторыяй тубыльцаў, якую рознымі шляхамі ў розныя часы захапілі белыя каланізатары, натуральна, у такой формулы хапала крытыкаў. Асабліва актыўна іх колькасць пачала расці па ходзе таго, як пакінутая ў спадчыну ад каланізатараў эканамічная мадэль Паўднёвай Афрыкі пачала даваць збоі.

Канчаткова тэма канфіскацыі зямель у белых прапісалася ў лакальнай палітычнай павестцы пасля таго, як на гэты крок напачатку XXI стагоддзя рашыўся Роберт Мугабэ — лідар суседняй Зімбабвэ. Вынікі экспрапрыяцыі зямель у белых фермераў і раздача ўчасткаў абарыгенам аказаліся супярэчлівымі. Дробная прымітыўная сельская гаспадарка апынулася неканкурэнтаздольнай. Літаральна за пару гадоў краіна ператварылася з экспарцёра аграпрадукцыі ў імпарцёра харчавання. Праўда, сумны зімбабвійкі досвед на калектыўную думку чорных фермераў ПАР не паўплываў.

Трэба аддаць належнае апаратчыкам урадавай партыі ПАР — Афрыканскага Нацыянальнага Кангрэсу (ANC), якія доўгі час займаліся эфектыўным сабатажам у гэтай галіне. Так, прапанаваны яшчэ ў 2008 годзе законапраект пра канфіскацыю зямель у белых быў пахаваны ў нетрах парламенцкіх камітэтаў. Лідары Кангрэсу, напэўна, цудоўна разумелі рызыкі нацыяналізацыі. Акрамя калапсу аграсектара, такі акт закладаў міну пад інвестыцыйны клімат, спрыяў імклівай міграцыі часткі белых суайчыннікаў — самай адукаванай і багатай праслойкі ў ПАР. Таксама рэформа пагражала эскалацыяй міжрасавага гвалту.

Аднак усяму прыходзіць фінал. Чарговая порцыя кампрамату пра карупцыйныя аферы прэзідэнта Якаба Зумы і надыходзячыя жнівеньскія муніцыпальныя выбары прымусілі гаранта шукаць сродкі для амартызацыі незадаволенасці грамадства. Увесну ён пагадзіўся на тое, каб законапраект пра канфіскацыю быў прадстаўлены парламенту.

У выніку напачатку чэрвеня парламент, дзе ANC мае большасць, прагаласаваў за біль, які дазваляе адчужэнне зямельных уладанняў у імя «грамадскіх інтарэсаў». Праўда, за канфіскацыю надаецца кампенсацыя, памер якой будзе ўстанаўліваць спецыяльны ўрадавы агент. Пакуль цяжка зразумець прававыя крытэры таго, што ёсць «грамадскія інтарэсы», аднак з памерамі гектараў, якія павінны быць нацыяналізаваныя, у кіраўніцтве ANC ужо вызначыліся. Прапануецца для пачатку забраць у белых трацiну іх зямельнай маёмасці. На цяперашні момант чорныя фермеры маюць ва ўласнасці толькі дзесяць працэнтаў сельскагаспадарчых угоддзяў ПАР.

Тое, што рашэнне аб канфіскацыі гістарычнае, прызнаюць усе каментатары. Прычым, адгукнецца яно не толькі белым фермерам, якія ўжо заявілі пра намер апратэставаць біль у Канстытуцыйным судзе. Нервавацца маюць усе падставы ўладальнікі руднікоў і шахтаў. Спікеры ліберальнай апазіцыі з Дэмакратычнага альянсу падчас парламенцкіх дэбатаў адзначалі, што пад апраўданнем «грамадскіх інтарэсаў», якія вызначаныя вельмі слаба, можна канфіскаваць не толькі зямлю, аднак і тое, што на ёй (і пад ёй) знаходзіцца.

Акрамя таго, ПАР — вядучая краіна ў рэгіёне, арыенцір для краін-суседзяў. Можна чакаць, што тэма нацыяналізацыі хутка з'явіцца і ў праграмах палітсіл іншых дзяржаў. У дадатак ANC — нефармальны лідар мікраінтэрнацыяналу вядучых левацэнтрысцкіх партый шэрагу краін Паўднёвай і Экватарыяльнай Афрыкі.

У законе хапае супярэчнасцяў, якія, на думку экспертаў, могуць затармазіць яго імплементацыю. Так, напрыклад, канфіскаваную зямлю прапануецца раздаваць не бясплатна, а прадаваць. Цяжка зразумець, адкуль дробныя бедныя чорныя фермеры знойдуць на гэта сродкі. Каб закон сапраўды запрацаваў, павінна быць прадуманая і зацверджаная сістэма крэдытнай падтрымкі, для чаго патрэбны дадатковы час. Акту экспрапрыяцыі таксама мусіць папярэднічаць праца нейкага профільнага камітэту пры ўрадзе, які пасля дэталёвага вывучэння выдасць заключэнне: маўляў, менавіта гэты шматок зямлі трэба канфіскаваць у імя «грамадскіх інтарэсаў».

Не выключана, што беднякі-фермеры пры такім сцэнары не будуць чакаць дадатковых заканадаўчых ініцыятыў, а проста прагаласуюць за больш радыкальныя партыі, якія патрабуюць раздаваць канфіскаваную зямлю бясплатна. Гэта, напрыклад, партыя «Рух за эканамічную свабоду», лідары якой заклікаюць адмяніць закон 1913 года, які пазбаўляў абарыгенаў права ўласнасці на зямлю продкаў. Аднак і гэта таксама яшчэ някепскі варыянт развіцця падзей. У тым жа Зімбабвэ бедны люд, інспіраваны папулісцкімі прамовамі Мугабэ, у свой час сам пачаў гвалтоўныя экспрапрыяцыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларусь і яе кіраўнік знаходзяцца ў вельмі складанай сітуацыі. Нягледзячы на жорсткую ўладную вертыкаль, там занадта моцныя «празаходнія» настроі, асабліва ў асяроддзі інтэлігенцыі і, збольшага, моладзі. Таму разгарнуць рэспубліку ў нашым кірунку Лукашэнку будзе вельмі няпроста. І тым не менш, зрабіць гэта неабходна, паколькі літаральна пад бокам ёсць вельмі павучальны прыклад Украіны. Мы ўсе памятаем, як Захад вельмі жорстка, з дапамогай сілавых стратэгій, «адарваў» апошнюю ад РФ і якія гэта мела наступствы для краіны.

**Mosmonitor (Расія)**

Да чаго ўсё гэта ў канчатковым выніку прывядзе, добра вядома: Беларусь, як і Украіна, скажа расійскім палітыкам «Чао!» і рушыць на Захад. Найбольш верагодны пераемнік Лукашэнкі, цяперашні міністр замежных спраў Уладзімір Макей прама сказаў у інтэрв'ю польскаму выданню, што праз 40–50 гадоў РБ можа ўступіць у ЕС. Што тады застанецца рабіць расійскай эліце і верным ёй прапагандыстам? Толькі скалынаць паветра крыкамі пра «здраду», «падкопы Дзярждэпу» і «мінскіх фашыстаў». Але гэта будзе толькі праз некалькі гадоў, пакуль жа ёсць час цешыць сябе ілюзіямі непарушнага братэрства.

**АПН (Расія)**

Лепшая стратэгія адносін Украіны і Беларусі на бліжэйшы час — асцярожная палітыка ў сферы бяспекі і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва ў эканоміцы. З эканамічнай плоскасці ў нас ёсць шанец рана ці позна выйсці на мадэль супрацоўніцтва ў сферы бяспекі. І, калі раней геапалітычны разварот Беларусі пры Аляксандру Лукашэнку ўяўляўся немагчымым у прынцыпе, то ў апошні год гэтая ўпэўненасць стала не такой ужо і абсалютнай. Сусветныя санкцыі супраць Расіі, падзенне сусветных цэн на нафту і, як следства, — эканамічны крызіс у Расіі, сур'ёзна падкасілі веру Лукашэнкі ў магутнасць Пуціна і перспектыўнасць выжывання беларускай дзяржавы разам з Крамлём.

**«Левый берег» (Украіна)**

Калі вобразна паглядзець на мапу Беларусі, то яе тэрыторыя нагадвае паўвостраў Крым. Гэты значны выступ у напрамку Еўропы даволі добра дазваляе кантраляваць шырокія прасторы Польшчы, Прыбалтыкі і паўночных абласцей Украіны, а разам з гэтым і павялічвае магчымасці паказытаць нервы зарваўшымся русафобам у іншых краінах кантынента.

**Newinform (Расія)**

Здзіўляе фармулёўка, чаму санкцыі супраць Мінска з боку ЗША будуць падоўжаныя. Няўжо ў ЗША хтосьці ўсур'ёз думае, што беларускія чыноўнікі могуць прадстаўляць пагрозу нацыянальнай бяспецы Амерыкі? Вашынгтон вырашыў перастрахавацца, каб Беларусь не адважылася на сапраўдную інтэграцыю з Расіяй. Злучаныя Штаты хочуць трымаць Мінск на «кароткім ланцугу». Каб там не думалі, што Захад гатовы ўсё дараваць і прыняць Беларусь у сям'ю «цывілізаваных народаў».

**«Свободная пресса» (Расія)**

Ці пройдуць апазіцыянеры ў парламент, сёння вырашаюць не выбаршчыкі, а вузкае кола чыноўнікаў, якія рыхтуюць Лукашэнку палітычныя рашэнні. (….) Спісы і кандыдатаў ад улады зараз фармуюць без удзелу нават наменклатуры на месцах, гэта стала вотчынай адміністрацыі прэзідэнта. Асноўная інтрыга ў тым, ці пакіне ўлада частку дэпутацкіх мандатаў для вольнага розыгрышу.

**Deutsche Welle (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Ці гуляць у футбол з Косава?

Увесну Косава прынялі ў склад еўрапейскай і сусветнай футбольных арганізацый. А днямі ў Жэневе, дзе месціцца офіс FIFA, было вырашана ўключыць касавараў у адборачны турнір да Чэмпіянату свету 2018 года. Невядома толькі, чаму Косава зрабілі ўдзельнікам той групы, дзе таксама гуляе Украіна. У Кіеве такое рашэнне выклікала супярэчлівую рэакцыю. Справа ў тым, што Украіна афіцыйна не прызнае Косава. І сам факт матчу з камандай непрызнанай краіны выглядае адыходам ад прынцыпу «ніякіх кантактаў з сепаратыстамі». «У нашай краіне вайна, і мы маем уласныя квазідзяржавы — «ДНР» і «ЛНР». Сёння мы прызнаем Косава, а заўтра расіяне пачнуць патрабаваць незалежнасці «ДНР» і «ЛНР», — піша адно з кіеўскіх выданняў. Ёсць яшчэ адна праблема. Калі зборная Косава прыляціць у кіеўскі аэрапорт Барысполь, іх не пусцяць на тэрыторыю Украіны, бо Косава — не прызнаная Кіевам дзяржава. Некаторыя аматары футболу нават заклікаюць украінскую футбольную федэрацыю адмовіцца ад сустрэчы з касаварамі. На іх думку, лепш атрымаць тэхнічную паразу за нявыхад на поле, чым адмовіцца ад прынцыпаў. Першы матч з касаварамі ўкраінцы павінны правесці ў кастрычніку.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. Калі ўсё ж Дзень Расіі?

Чарговыя ўрачыстасці Дня Расіі 12 чэрвеня зноў выклікалі дэбаты пра неабходнасць пераносу даты святкавання. Нагадаем, што свята прыдумаў Барыс Ельцын пасля таго, як у згаданы дзень у 1990 годзе Расійская Савецкая Сацыялістычная Федэрацыя абвясціла пра свой суверэнітэт у складзе СССР. З улікам імперскіх комплексаў і настальгіі па СССР, характэрных для простых расіян, свята не прыжылося ад самага пачатку. Апошні час даце 12 чэрвеня актыўна шукаюць альтэрнатыву. У гэтым годзе найбольш нестандартную прапанову вылалі камуністы. Зюганаўцы прапануюць святкаваць Дзень Расі 28 ліпеня — Дзень Хрышчэння Русі. Паводле іх слоў, хрышчэнне Русі адыграла гістарычную ролю ў станаўленні расійскай дзяржавы. Партыя «Камуністы Расіі», у сваю чаргу, заявіла, што Дзень Расіі неабходна перанесці на 7 лістапада. Некаторыя патрыёты выступілі з ініцыятывай пераносу святкаванне Дня Расіі на 18 сакавіка — дзень, калі Пуцін падпісаў пастанову пра ўключэння Крыма ў склад РФ. Іншыя лічаць, што дзень Расіі трэба не святкаваць, а сумаваць па ахвярах рэжыму Ельцына. Паводле іх, аптымальная дата для Дня Расіі — 21 верасня: у гэты дзень у 1993 годзе Ельцын распусціў Вярхоўны савет. Прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў заявіў, што ў Крамлі не бачаць падстаў для пераносу святкавання Дня Расіі з 12 чэрвеня на іншую дату.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Чарга на прызнанне генацыду

Рэзалюцыя Бундэстага пра прызнанне генацыду армян з боку туркаў падчас Першай сусветнай вайны выклікала незадаволенасць у часткі нямецкай грамадскасці. Некаторыя бюргеры лічаць, што перш чым галасаваць па армянскім пытанні, трэба было прызнаць адказнасць Германіі за генацыд намібійскага народу херэра. У пачатку XX стагоддзя, калі Намібія належала немцам, херэра ўзнялі паўстанне, якое каланізатары жорстка здушылі. Пры гэтым нямецкія жаўнеры знішчалі не толькі інсургентаў, але і мірнае насельніцтва, выцясняючы яго ў пустыні. У выніку зачысткі 80 працэнтаў херэра было знішчана. Каментуючы заклік прызнаць генацыд херэра, прадстаўнік Бундэстагу заявіў, што тут ёсць шэраг тэхнічнай праблем. Магчыма, гаворка ідзе пра рэпарацыі, якія можа запатрабаваць Намібія. Прынамсі, намібійскі пасол у Берліне нават не хавае, што патрабаванне кампенсацый будзе наступным крокам пасля таго, як ФРГ прызнае сябе адказнай за генацыд херэра.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Захапіць Гібралтар

Прыхільнікі выхаду Вялікабрытаніі з ЕС сцвярджаюць, што ў Мадрыдзе ёсць план захопу Гібралтара ў выпадку, калі 23 чэрвеня брытанцы прагаласуюць за Brexit (выхад брытанскіх выспаў з Еўрасаюза). Як вядома, Іспанія даўно патрабуе ад Лондана вярнуць Гібралтар, які Англія захапіла ў 1713 годзе. У сакавіку 2016-га дырэктар МЗС Іспаніі заявіў, што іспанцы павінны быць гатовыя да перамоваў наконт лёсу Гібралтара ў выпадку Brexit. Палітолагі прызнаюць, што пры такім сцэнары шанцы Іспаніі вярнуць спрэчную зону сапраўды павялічваюцца, паколькі спрэчак паміж метраполіяй і Гібралтарам, дзе большасць выступае за еўраінтэграцыю, папросту не пазбегнуць. Мадрыд можа паспрабаваць умяшацца ў дэбаты наконт новага статусу Гібралтару. З іншага боку, 19 чэрвеня іспанцы абіраюць новы парламент, дзе ніводная партыя, як сведчаць сацыялогія, не будзе мець большасці. Наўрад ці ва ўмовах цяжкіх кааліцыйных перамоў у іспанскай эліты будзе час на пытанне Гібралтару.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.euro2016.rsport.ru

# Фанаты — зброя Крамля

Алег НОВІКАЎ

**Чэмпіянат Еўропы па футболе ў Францыі азмрочыла серыя боек з удзелам агрэсіўных расійскіх фанатаў. Некаторыя аспекты сутыкненняў далі падставу для версіі пра тое, што хуліганы дзейнічаюць паводле цыркуляраў Крамля.**

Нягледзячы на някепскі футбол, які дэманструюць удзельнікі Еўра–2016, галоўнымі ўдзельнікамі рэпартажаў з чэмпіянату пакуль з'яўляюцца футбольныя хуліганы. Практычна ўсе матчы першых тураў суправаджаліся навінамі пра рознага маштабу разборкі паміж заўзятарамі. Лідзіруюць тут пакуль расійскія тыфозі. На іх рахунку масавая бойка з англійскімі калегамі ў Марселі, у выніку якой пацярпелі каля сотні чалавек, і прарыў на сектар англічан на стадыёне.

Існуе версія, што расіяне таксама стаялі за атакай на групу ўкраінскіх фанатаў у Лілі. Прынамсі, на адным з відэазапісаў можна пачуць, як атакуючыя падбадзёрваюць адзін аднаго на мове Пушкіна. Гэтую тэму прасоўваюць украінскія СМІ. Праўда, нямецкая паліцыя кажа, што іх ведамства здолела ідэнтыфікаваць некаторых персон з Ліля, і яны належаць да заўзятараў дрэздэнскага «Дынама». Тое, што фанаты «Дынама» з саксонскай сталіцы абралі ўкраінскіх турыстаў у якасці аб'ектаў нападу, можна растлумачыць іх правай радыкальнымі поглядамі (нямецкія праварадыкалы, як правіла, падтрымліваюць Расію ў расійска-ўкраінскім канфлікце).

Паколькі ў Расіі без санкцыі Крамля камар не праляціць, па слядах апісаных інцыдэнтаў з'явілася версія, што фанатаў каардынуе нейкі звязаны з дзяржавай цэнтр.

Польская «Gazeta Wyborcza» піша: «Вельмі дзіўна, што самая вялікая групоўка па стварэнні атмасферы нянавісці спакойна прыехала на цягніках. Куды глядзелі спецслужбы? Ці не дапамог ім нехта? Напрыклад, Англія не дазволіла падарожнічаць найбольш агрэсіўным «хуліганам», канфіскаваўшы 3 тысячы пашпартоў. Германія накіравала французскім сілавікам спіс з 2,5 тысяч прозвішчаў самых небяспечных фанатаў. З Масквы пераслалі толькі 30 прозвішчаў».

Прэса таксама не прайшла міма дзіўнай тырады віцэ-спікера Дзярждумы Расіі, сына лідара ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага Ігара Лебедзева. Той пахваліў расійскіх балельшчыкаў за бойку з англійскімі фанатамі. «Не бачу нічога страшнага ў бойцы фанатаў. Наадварот, малайцы нашы хлопцы. Так трымаць!» — напісаў ён у Twitter. На думку палітыка, калі б міністр спорту РФ Віталь Мутко быў з фанатамі на трыбунах і не быў афіцыйнай асобай, ён таксама пайшоў бы біцца з англічанамі. У рунэце (расійскі сегмент інтэрнэту) існуе папулярны міф пра тое, што госці з Расіі дапамаглі французам пазбавіцца алкаголікаў-англічан, якія тры дні буянілі ў цэнтры гораду. Быццам бы за гэта ім удзячны ўвесь Марсель.

Навошта Крамлю ствараць войска футбольных фанатаў, паспрабаваў адказаць украінскі блогер Алег Панамар. На яго думку, расійскія спецслужбы спланавалі правакацыю напярэдадні брытанскага рэферэндуму пра выхад з ЕС. Сцэна на тэлевізійных экранах пра збіццё падданых Яе Вялікасці на фоне бяздзейнасці паліцыі адной з дзяржаў Еўрасаюза не можа не выклікаць антыеўрапейскія пачуцці.

Каментатар расійскай службы «Deutsche Welle» Ілля Прэабражэнскі не верыць у канспіралогію. На яго думку, фанаты проста сталі ахвярамі патрыятычнай вакханаліі ў расійскіх дзяржаўных медыя, якія падаюць Еўра–2016 не як спартовае мерапрыемства, а як пляцоўку для дэманстрацыі велічы Расіі. У тым ліку і на трыбунах.

Прэабражэнскі ў гэтай думцы не адзінокі. Вось што піша французскае выданне «L'Equipe»: «Яны (расійскія фанаты) хацелі біць англічан, таму што ў іх свядомасці застаўся стары стэрэатып пра англійскіх «хуліганаў», якія, быццам бы, самыя брутальныя ў свеце. І яны хочуць давесці, што яны круцей за англічан. Нездарма месцам для гэтага быў абраны Марсель, дзе ў 1998-м англійскія фаны арганізавалі масавыя беспарадкі».

Некаторыя пабачылі ў праявах агрэсіўнасці фанатаў нейкі сігнал аматарам арганізаваць у Расіі Майдан. Вядома, што пуцінскія паліттэхнолагі намагаюцца выкарыстоўваць моладзевыя субкультуры ў сваіх мэтах. Яскравы прыклад — байкеры «Начныя ваўкі», якія, па сутнасці, выступаюць прапагандыстамі Крамля. «Крамлёўскія» спрабуюць фліртаваць і з фанатамі. «Фанацкі рух, кантраляваны і падкантрольны Пуціну і яго агентам, усё больш і больш нагадвае па сваіх метадах і мэтах атрады «Татон-Макутаў» гаіцянскага дыктатара Франсуа Дзювальє-старэйшага, якія падаўлялі палітычныя пратэсты, распаўляліся з непажаданымі і справа, і злева, займаліся вымагальніцтвам і рэкетам», — піша адзін з каментатараў на сайце «Deutsche Welle».

Якімі б не былі сапраўдныя матывы ўчынкаў фанатаў, відавочна, што Расія будзе намагацца замяць скандал. Ужо вядома пра адпаведны зварот да заўзятараў. Прычына не толькі ў тым, што рымейк марсельскай бойкі можа каштаваць рускай зборнай дыскваліфікацыі. Адначасова можа паўстаць пытанне пра здольнасць улады Расіі кантраляваць сітуацыю падчас Чэмпіянату свету 2018 года, які павінна прымаць наша ўсходняя суседка.

Сваёй думкай пра тое, чым можа скончыцца цяперашні скандал, з НЧ падзяліўся маскоўскі журналіст Дзмітрый Ільін:

— Не думаю, што Крэмль наўпрост інспіраваў фанатаў на гвалт, аднак цяпер ён дакладна будзе выкарыстоўваць футбольную тэму напоўніцу. Інфармацыя пра дэпартацыю 50-ці расійскіх фанатаў, сярод якіх быццам бы ёсць кабеты, і заклікі да дыскваліфікацыі зборнай Расіі — манна нябесная для канторы Кісялёва. І, баюся, гэта толькі рэпетыцыя напярэдадні Алімпіяды ў Бразіліі. Вось там будзе сапраўдная патрыятычная прачыстка мозгу за кошт спорту. Задача — падрыхтаваць выбаршчыка да правільнага галасавання на думскіх выбарах у верасні.

# Як ЛГБТ здрадзіла Хілары

Алег НОВІКАЎ

**Шок ад трагедыі ў Арланда, дзе падазраваны ў ісламізме забіў наведвальнікаў гей-клубу, стаўся настолькі моцным, што частка амерыканскай ЛГБТ-камуны вырашыла падтрымаць на выбарах ксенафоба Дональда Трампа.**



Фота www.espreso.rs

Пікантнасць гэтай гісторыі — не ў скандальным арэоле, які звязаны з камунай секс-меншасцяў. Заслугоўвае ўвагі тое, як хутка на хвалі эмацыйнай рэакцыі на бок Трампа перабеглі людзі, якія традыцыйна належалі да электаральнай цытадэлі Дэмакратычнай партыі. З самага старту выбарчых гонак сексуальныя меншасці былі моцна ангажаваныя ў рух супраць Трампа і, адпаведна, падтрымлівалі кандыдатаў ад дэмакратаў.

Цікава, што Трамп, хаця і быў у свой час супраць аднаполых шлюбаў, у час праймерыз асабліва гэтую тэму не чапаў. Аднак ЛГБТ-супольнасць цудоўна разумела, што за ім стаіць архікансерватыўная Амерыка, у вачах якой яны нічым не лепшыя за мусульман або лацінаамерыканцаў, якіх мільярдэр у выпадку перамогі абяцае дэпартаваць з краіны.

Аднак цяпер мы сталі сведкамі з'явы, якая ўчора падавалася неверагоднай: за акіянам з'явіліся прадстаўнікі ЛГБТ — аматары Трампа. Рубіконам стала страляніна ў гей-клубе ў Арланда 12 чэрвеня. Напад у Арланда ўжо называюць самым крывавым інцыдэнтам з ужываннем агністрэльнай зброі адным чалавекам у ЗША. Вядома, што этнічны афганец Аман Мацін, які пачаў страляць, забіўшы ў выніку 49 чалавек і параніўшы больш за 50, паспеў патэлефанаваць у службу «911» і заявіць, што вызнае прынцыпы «Ісламскай дзяржавы».

Версія сувязі забойцы з радыкальнымі цэнтрамі яшчэ не даказаная, але амерыканская масавая думка ўжо зрабіла высновы наконт таго, хто вінаваты і што рабіць. Шмат людзей бачаць карані праблемы ў ісламе, і патрабуюць ад ураду рашучых крокаў. Той жа рэцэпт прапануе і Трамп.

ЛГБТ-супольнасць, як аказалася, не выключэнне. На іх інтэрнэт-форумах можна знайсці запісы кшталту тых, якія цытуе інтэрнэт-выданне newsmax: «Я амерыканец, я гей. Раней, калі я думаў пра Трампа, я хацеў ляяцца. Сёння ўсё змянілася. Мой сябар быў адной з ахвяр у Арланда, і таксама быў супраць таго, каб Трамп заняў вышэйшую пасаду. (...) Я ўзрушаны. Я зламаны, я патрабую лідара, які на самай справе мог бы ўзяць на сябе адказнасць і пачаць змены. Дапамагчы зрабіць нашу краіну больш бяспечнай». Або: «Я гей, і гэты агідны інцыдэнт пераканаў мяне далучыцца да цягніка, на якім едзе Трамп! Гэта самы час для таго, каб бегчы з карабля дэмакратаў».

Асноўную выснову, якую робяць аўтары падобных выказванняў: самае галоўнае для чалавека і для ЛГБТ-камуны — гэта жыццё і здароўе кожнага сябра камуны. У імя гэтага можна падтрымаць кандыдата-рэспубліканца, які абяцае скончыць з тэрорам радыкальных ісламістаў і абараніць геяў.

Ніхто нават не турбуе, што Трамп для прафілактыкі тэрактаў заклікае суайчыннікаў актыўна лезці ў прыватнае жыццё суседзяў. Кандыдат-рэспубліканец прапанаваў прыцягваць амерыканцаў да адказнасці, калі яны не паведамляюць пра сваіх сяброў і суседзяў, што паводзяць сябе падазрона. «Кожны чалавек, які ўдзельнічае ў планаванні злачынстваў, у тым ліку і тыя, хто ведаў штосьці, але не сказаў, павінны прыцягвацца да судовай адказнасці», — кажа Трамп. «Гэтыя людзі павінны адчуць магчымыя наступствы, вялікія наступствы», — прыводзіць словы Трамп выданне «The Huffingpost».

Гледзячы па ўсім, Трамп быццам не супраць, каб пашырыць сваю каманду за кошт прыхільнікаў нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. У сваім першым выступе пасля падзей у Арланда ён заклікаў натоўп да хвіліны маўчання і да таго, каб маліцца за загінулых геяў і лесбіянак. Трамп паведаміў, што падобныя масавыя забойствы — гэта «напад на свабодных людзей, на магчымасць жыць прыватным жыццём, кахаць, каго яны хочуць, і выказваць сваю ідэнтычнасць».

Нават Крыс Баран, сябра рэспубліканцаў, які раней крытыкаваў Трампа, цяпер, наадварот, пачаў фармаваць адпаведную групу яго падтрымкі. «Хілары Клінтан хоча працягнуць некампетэнтную знешнюю палітыку, якая зрабіла свет менш бяспечным для ўсіх амерыканцаў, у тым ліку ЛГБТ-амерыканцаў. У мяне няма сумневаў у тым, што Дональд Трамп будзе лепей для ЛГБТ-амерыканцаў», — сказаў Баран у інтэрв'ю CNN.

Лідары ЛГБТ-руху, каментуючы такія заклікі, заяўляюць, што спробы Трампа падлашчыцца да іх актыву не маюць перспектыў. «Усе групы меншасцяў павінны трымацца разам у апазіцыі да спадара Трампа. Тое, што ён кажа, гэта не абарона, а атрута», — кажа прадстаўнік Human Rights Campaign, найбуйнейшай арганізацыі правоў ЛГБТ у краіне.

Аднак рэакцыя на падзеі ў Арланда даводзіць, што страх лёгка разбурае забабоны нават такіх ідэалагічна кансалідаваных груповак, як рух ЛГБТ, спрыяе ілюзіям пра моцную руку як панацэю, дазваляе папулістам лёгка перацягваць грамадства на свой бок. Гісторыя з геямі-рэнегатамі даводзіць, што лёгкай перамогі ў Хілары Клінтан — яна ўсё яшчэ лічыцца фаварытам выбараў, — не будзе.


Фота www.theundefeated.com

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Кіраўнік Турцыі зрабіў яшчэ адзін крок ад кемалісцкіх рэспубліканскіх традыцый, дазволіўшы, каб падчас месяца Рамадан штодня ў саборы Святой Сафіі чыталі Каран. Сёння суры Карана сапраўды гучаць у храме. Гэта першы выпадак пачынаючы з 1934 года, калі Атацюрк пастанавіў прыпыніць рэлігійныя службы ў саборы, які стаў мячэцяй пасля таго, як у 1453 годзе асманы захапілі Канстанцінопаль. Пасля рашэння Атацюрка будынак стаў музеем (афіцыйная назва помніка на сённяшні дзень — Музей Айя-Сафія) і пазней быў уключаны ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Дэмарш Эрдагана адразу выклікаў канфлікт з Афінамі, дзе помнікі часоў Візантыі разглядаюць як частку сваёй культурнай спадчыны. МЗС Грэцыі расцэньвае дзеянні Анкары як «праяву непавагі і адсутнасці сувязі з рэальнасцю», несумяшчальную з сучаснымі дэмакратычнымі і свецкімі традыцыямі. Дзяржаўны дэпартамент ЗША 14 чэрвеня таксама заклікаў Турцыю паважаць стары статус сабору Святой Сафіі ў Стамбуле і выказаўся супраць яго ператварэння ў мячэць.

Цікава, што праваслаўны патрыярх Канстанцінопаля пакуль не рэагуе на падзеі ў храме. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што праваслаўная камуна ў Турцыі не вельмі вялікая і не хоча канфліктаваць з уладай.

### Джузэпе Грыла




Комік па мянушцы «Бепе», лідар партыі «Рух пяці зорак», фактычна стаў галоўным кандыдатам на пасаду наступнага прэм'ер-міністра Італіі. Такія прагнозы выдаюць пасля апошніх муніцыпальных выбараў, па выніках якіх яго 37-гадовая аднапартыйка Вірджынія Раджы прарвалася ў другі тур выбараў мэра Рыма. Напярэдадні галасавання 19 чэрвеня ўсё прагназуюць, што ўпершыню кіраваць Вечным горадам будзе жанчына.

Захоп Рыма, на думку палітолагаў, робіць Грыла галоўным канкурэнтам цяперашняга левацэнтрысцкага прэм'ера Матэа Рэнцы, чыя «Дэмакратычная партыя» перажывае не самыя лепшыя часы. Праўда, Вірджыніі давядзецца шмат папрацаваць, каб не дапусціць расчаравання ў праекце «Рух пяці зорак». У Рыме шмат эканамічных і экалагічных праблем, не кажучы пра 14-мільярдны муніцыпальны доўг. Кадэнцыя Вірджыніі таксама можа дапамагчы нарэшце зразумець, якая ў Бепе сацыяльна-эканамічная мадэль Італіі, паколькі зараз ён робіць супярэчлівыя заявы. Калі трэнд захаваецца, то комік пачне кіраваць Італіяй пасля парламенцкіх выбараў 2018-га.

### Траян Бэсеску



Былы румынскі прэзідэнт атрымаў малдаўскі пашпарт, што стала падставай для новага палітычнага крызісу ў Малдове. Ніхто не сумняваецца, што натуралізацыя Бэсеску — гэта пралог спробы захопу ўлады для рэалізацыі праекта ўключэння Малдовы ў склад Румыніі.

Былы кіраўнік Румыніі заўжды адкрыта заяўляў, што малдаўская еўраінтэграцыя накіравана на далучэнне тэрыторыі Малдовы да Румыніі. Больш таго, Бэсеску можа паспець уключыцца ў кампанію па выбарах прэзідэнта, якія прызначаныя на гэтую восень. Праўда, для гэтага з выбарчага кодэксу павінен знікнуць параграф, які патрабуе ад кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы пражываць апошнія 10 гадоў перад выбарамі на малдоўскай тэрыторыі.

Нават калі Бэсеску не будзе балатавацца ў прэзідэнты, ён можа стаць фігурай, вакол якой аб'яднаецца дэфрагментаваны цяпер праеўрапейскі лагер. Між тым лідары левых (чытай — прарасійскіх) партый ужо заявілі, што пасля прыходу да ўлады пазбавяць Бэсеску малдоўскага пашпарту. На іх думку, пашпарт патрэбны экс-прэзідэнту Румыніі, каб схавацца да судовага пераследу на радзіме, дзе яго падазраюць у хабарніцтве. Пакуль менавіта прадстаўнік левага флангу, сацыяліст Ігар Дадон лідзіруе ў электаральных сімпатыях малдаван. За яго гатовыя галасаваць каля 20 працэнтаў выбаршчыкаў.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

# Цяжкі выбар

**Краіны Балтыі 14 чэрвеня адзначаюць Дзень памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсіяў. У гэты дзень у 1941 годзе ў Латвіі, Літве і Эстоніі пачаліся масавыя дэпартацыі. Але распачалося ўсё годам раней.**

Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову пра ўваходжанне Эстоніі ў склад Савецкага Саюза 6 жніўня 1940 года. За дзень да гэтага часткай СССР стала Латвія. Ці былі шанцы ў гэтых дзяржаў адстаяць сваю незалежнасць?

### У вайне за незалежнасць

Латвія абвясціла незалежнасць у лістападзе 1918 года. Аднак на працягу наступных двух гадоў у краіне адбывалася барацьба паміж прыхільнікамі нацыянальнага суверэнітэту і тымі, хто бачыў будучыню Латвіі ў саюзе з бальшавіцкай Расіяй. У гэты ж час ішло фармаванне нацыянальнага латвійскага войска.

Урэшце ў жніўні 1920 года была заключана мірная дамова, паводле якой РСФСР прызнала незалежнасць Латвіі. Эстонія паўтарыла шлях паўднёвай суседкі: у лютым 1918-га эстонцы сталі незалежнымі, і таксама пачалося фармаванне эстонскага войска. Яго аснову склалі ахоўныя часткі «Эсці кайтселіт», якія пазней пачалі баявыя дзеянні супраць бальшавікоў. У лютым 1920-га Саветы вымушаны былі заключыць з эстонцамі прэлімінарную мірную дамову. Праз год абедзве краіны сталі сябрамі Лігі нацый.

У міжваеннае дваццацігоддзе краіны Балтыі разам з Другой Рэччу Паспалітай выконвалі ролю своеасаблівага «санітарнага калідору» паміж «буржуазнай» Еўропай і імперыяй Сталіна. Важную ролю ў гэтым адыгрывала Варшава, якая імкнулася арганізаваць Балтыйскі саюз. У сакавіку 1922 года Эстонія, Латвія, Фінляндыя і Польшча падпісалі дамову аб супрацоўніцтве, аднак праз два месяцы фіны з яе выйшлі. У лістападзе 1923-га Талін і Рыга заключылі двухбаковую дамову аб супрацы.

### Міжваеннае дваццацігоддзе

У 1924 годзе эстонскім уладам удалося падавіць камуністычны путч, і пасля гэтага жыццё краіны стабілізавалася. Асноўныя спрэчкі на палітычнай арэне адбываліся паміж прадстаўнікамі Сельскагаспадарчага саюза і Саюза ўдзельнікаў вызваленчай вайны. Апошнія прытрымліваліся правых, блізкіх да фашысцкіх поглядаў. У снежні 1935 года прэм'ер-міністр Эстоніі Канстанцін Пятс дамовіўся аб падтрымцы з боку міністра ўзброеных сіл Ёхіма Лайданэра, у выніку чаго паліцыя затрымала 750 «ветэранаў» вызваленчай вайны. Праз год Пятс стаў прэзідэнтам.

Падзеі Першай сусветнай вайны нязначна закранулі Эстонію, аднак пакінулі свае сляды ў Латвіі. Нямецка-рускі фронт доўгі час знаходзіўся на Дзвіне. Царскія ўлады вывезлі з краіны абсталяванне фабрык і заводаў. Тое, што не паспелі забраць рускія, забралі немцы. На Усход выехала некалькі соцень тысяч жыхароў Латвіі. Пасля атрымання незалежнасці латышы складалі 75% насельніцтва Латвійскай рэспублікі. У 1920-я гады ўлады краіны нацыяналізавалі стратэгічныя прадпрыемствы і правялі аграрную рэформу.



Прасавецкі парад у Таліне



Латвійскі прэзідэнт Карліс Ульманіс



Эстонскі прэзідэнт Канстанцін Пятс

У 1934 годзе ў Латвіі адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога ўладу сканцэнтраваў прэм'ер-міністр Карліс Ульманіс. Ён абмежаваў дзейнасць партый, а праз два гады прызначыў сябе прэзідэнтам і, такім чынам, спалучыў у сваіх руках усю паўнату ўлады. Гэты перыяд развіцця краіны адзначаўся значным ростам латвійскай эканомікі: у 1930-я гады ў Латвію на сезонныя працы выязджалі нават грамадзяне Другой Рэчы Паспалітай, у тым ліку і беларусы.

Аднымі з жыхароў міжваеннай Латвіі была сям'я Снорыньш з партовага горада Вентспілс. Вольга Снорыньш працавала разам з мужам у ва ўласнай рыбнай краме, а іх сын Альгіс служыў у латвійскім войску.

### Уся надзея на жаўнераў

Улічваючы нестабільную сітуацыю ў Еўропе, Латвія і Эстонія імкнуліся стварыць баяздольныя ўзброеныя сілы. У пачатку 1930-х гадоў у латвійскім войску служыла 25 тысяч чалавек. Абавязковая служба працягвалася год у пяхоце і 15 месяцаў у іншых падраздзяленнях.

Узброеныя сілы Латвіі складаліся з чатырох пяхотных дывізій: 1-й Курляндскай (дыслакавалася на захадзе краіны, штаб быў у Елгаве); 2-й Інфлянцкай (знаходзілася на поўначы Латвіі, штаб у Рызе); 3-й Латгальскай (размяшчалася на ўсходзе, штаб у Плавінасе); 4-й Семігальскай (дыслакавалася на поўдні, штаб у Дынабургу). Галоўнай задачай 1-й дывізіі была абарона краіны ў выпадку магчымага канфлікту з Германіяй, а вось 4-я дывізія прыкрывала мяжу з СССР.

Спецыяльная памежная дывізія (у 1936 г. перафармаваная ў брыгаду) ахоўвала дзяржаўныя рубяжы. Гэтае фарміраванне падпарадкоўвалася міністру ўнутраных спраў і шмат у чым паўтарала польскі Корпус аховы памежжа. На мяжы былі пабудаваныя ўмацаваныя заставы, якія, па разліку камандавання латвійскага войска, павінны былі затрымаць першы ўдар ворага.

ВПС Латвіі складаліся са старых самалётаў («Фіят», «Брыстоль» і іншых). Вайсковы флот налічваў невялікую колькасць судоў: вартаўнічы карабель «Virsaitis», два тральшчыкі — «Viesturs» і «Imanta», дзве падводныя лодкі — «Spidola» і «Ronis», чатыры ледаколы — «Krisjanis Valdemars», «Lacplesis», «Perkons» і «Zibens». За арганізацыю вайсковай падрыхтоўкі моладзі адказвала «Арганізацыя айсаргаў». У кожным раёне краіны яна мела свой полк. Пасля 1934 года айсаргі атрымалі паліцэйскія паўнамоцтвы. У 1940 годзе колькасць чальцоў арганізацыі складала 60 тысяч чалавек.

У кожнай латвійскай дывізіі было па тры пяхотных палкі і адзін полк лёгкай артылерыі. У мірны час дывізія складалася з 3 тысяч жаўнераў, а падчас ваенных дзеянняў планавалася павялічыць яе асабовы склад да 12 тысяч чалавек. У 1930-я гады вайсковыя ўлады Латвіі набылі ў Швецыі 30 сучасных 40-міліметровых супрацьпаветраных гармат «Бафорс». У сакавіку 1940 года была сфармавана танкавая брыгада, у якую ўваходзілі: 3 супрацьтанкавыя дывізіёны, матарызаваны батальён і танкавы батальён (складаўся, у тым ліку, і з брытанскіх танкаў «Вікерс»). У выпадку вайны латвійскі генштаб разлічваў сфармаваць 8 пяхотных дывізій.

### Царскія браневікі і брытанскія падлодкі

Рэфармаванне эстонскага войска было праведзена ў 1928 годзе. Былі ліквідаваны палкі, а батальёны пяхоты ўключылі ў склад дывізіёнаў. У выпадку мабілізацыі восем батальёнаў павінны былі быць разгорнутыя да ўзроўню палка. У складзе тагачаснага войска Эстоніі былі падраздзяленні кшталту «нацыянальнай гвардыі», якія ў выпадку надзвычайных сітуацый павінны былі выконваць паліцэйска-вайсковыя функцыі. Быў таксама батальён для выканання «спецаперацый».

Урэшце пакінулі і два пяхотныя палкі. Першы з іх дыслакаваўся на поўнач ад возера Пэйпус на мяжы з СССР, а другі месціўся ў Тарту. Гэтыя падраздзяленні пастаянна ўтрымлівалі асабовы склад па штату вайсковага часу (тры батальёны пяхоты, рота сувязі, рота веласіпедыстаў). Штаб 1-й пяхотнай дывізіі і частка вайсковых падраздзяленняў знаходзіліся ў



Дэпартацыя ў чэрвені 1941 года



Брама на савецка-эстонскай мяжы, 1930-я гады




Латвійскія жаўнеры на парадзе, пасля далучэння Латвіі да СССР, лета 1940 года

# Рыгі і Таліна

Нарве, а з 1932 года — у Ракверы. 2-я пяхотная дывізія дыслакавалася ў Тарту. Пазней з'явіліся планы сфармаваць 4-ю дывізію пяхоты, аднак гэта было зроблена толькі ў 1940 годзе.

У эстонскім войску быў полк кавалерыі, які складаўся з двух эскадронаў. Артылерыя ўключала ў сябе 5 дывізіёнаў. Горш за ўсё было з бронетэхнікай. Да сярэдзіны 1930-х гадоў «бронеатрад» эстонскіх узброеных сіл складаўся з яшчэ царскіх бронеаўтамабіляў, трох рот танкаў «Рэно ФТ 17», браневікоў «Крослі» і 6 польскіх танкетак TKS. Некалькі браневікоў было на ўзбраенні паліцыі.

У ВПС Эстоніі былі старыя французскія самалёты. У ВМФ Эстоніі было некалькі караблёў, але частку з іх улады ў пачатку 1930-х гадоў прадалі ў Перу і набылі ў Вялікабрытаніі некалькі падводных лодак. У 1940 годзе вайсковы флот Эстоніі складаўся з узгаданых брытанскіх падлодак, кананерскіх лодак, мінных загараджальнікаў, тральшчыкаў і мінаносца.

Служылі ў войску эстонцы два гады, але пазней гэты тэрмін скарацілі да года. Асабовы склад войска Эстоніі ў 1930-я гады ўключаў у сябе 13 тысяч жаўнераў і афіцэраў. Таксама існавала ваенізаваная арганізацыя «Кайтсэліт» (складалася з 13 тэрытарыяльных падраздзяленняў), у склад якой уваходзіла каля 100 тысяч грамадзян.

## Другая сусветная грукае ў дзверы

У Латвіі і Эстоніі быў і свой «спрэчны» памежны рэгіён. Насамрэч, асаблівых спрэчак не было, але дзяржаўная мяжа падзяліла горад Валгу на дзве часткі. Справа ў тым, што восенню 1919 года рускі генерал Павал Бермондт-Авалаў выступіў супраць латвійскіх уладаў, і апошнія звярнуліся па дапамогу да эстонцаў. Паўночныя суседзі накіравалі ў Латвію бронецягнікі і дапамаглі латышам вызваліць іх тэрыторыю.

У адказ эстонцы патрабавалі перадаць большую частку мястэчка Валга ім. Так на тагачасных мапах з'явіліся латвійская Валка і эстонская Валга. Менавіта тут у складзе эстонскіх памежных войсках нёс службу капрал Гаўрыла Карніг. У гэтым раёне часта адбываліся міжкамісарскія сустрэчы. У іх удзельнічаў і згаданы вайсковец. Асаблівая часта сустракацца эстонскія і латвійскія памежнікі сталі восенню 1939 года. 31 жніўня 1939 года капрал Карніг разам з калегамі ў чарговы раз выехаў з эстонскай Валгі да суседзяў.

На наступны дзень Германія напала на Польшчу, і пачалася Другая сусветная вайна. Войскі краін Балтыі былі прыведзеныя ў баявую гатоўнасць. Наступная сустрэча адбылася 17 верасня 1939 года, калі падраздзяленні Чырвонай Арміі перайшлі савецка-польскую мяжу і пачалі далучэнне Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да СССР.

У чэрвені 1939 года Латвія і Эстонія падпісалі з Трэцім Рэйхам дамову пра ненапад. За 7 гадоў да гэтага такія ж дамовы былі падпісаныя і з СССР. Аднак 23 жніўня 1939 года гэтыя дакументы, па сутнасці, былі дэнансаваныя падпісаным у Маскве Пактам Молатава-Рыбентропа. Паводле яго дзве балтыйскія краіны ўваходзілі ў сферу інтарэсаў Савецкага Саюза. І ўжо 26 верасня 1939 года (у гэты час супраць вермахта і Чырвонай Арміі яшчэ актыўна змагалася Асобная аператыўная група Войска Польскага «Палессе». — І.М.)

Крэмль загадаў войскам Ленінградскай вайсковай акругі сканцэнтраваць свае часткі на мяжы з краінамі Балтыі. Супраць Эстоніі павінна была дзейнічаць 7-я армія (Кінгісэпскі накірунак), а супраць Латвіі — 8-я (Пскоўскі накірунак). У агульнай колькасці — 17 дывізій (160 тысяч чалавек, 700 гармат, 600 танкаў і 600 самалётаў). З боку Літвы ў баявым стане знаходзіўся Беларускі фронт РСЧА.

Ім супрацьстаялі 12 эстонскіх і латвійскіх дывізій, а з улікам літоўскіх войскаў балтыйцы маглі супрацьпаставіць бальшавікам каля 18 дывізій пяхоты, часткі кавалерыі і некалькі механізаваных брыгад. У Фінляндыі падчас «Зімовай вайны» войскаў было менш, але яна выстаяла. Але фіны паспелі пабудаваць памежныя ўмацаванні, якія сталі вядомы як «Лінія Манэргейма», чаго не было ў краін Балтыі. Яшчэ адным мінусам была немагчымасць паставак зброі з Вялікабрытаніі і Францыі, бо Балтыйскае мора было «зачынена» савецкімі караблямі.

Пры гэтым варта ўлічваць, што падрыхтоўка Чырвонай Арміі, нягледзячы на яе колькасны склад, пакідала жадаць лепшага. Канешне, танкаў і самалётаў у савецкага боку хапала, але, як паказаў «вызвольны паход у Заходнюю Беларусь і Украіну» і баявыя дзеянні ў Фінляндыі, «чырвоныя» былі далёка не такой грознай сілай, як яе малявалі на плакатах і паказвалі ў кінахроніцы. Калі нават паўразбітыя часткі Войска Польскага ў верасні 1939 года маглі нанесці падраздзяленням РСЧА цяжкія страты, то і падрыхтаваныя і адмабілізаваныя дывізіі прыбалтаў маглі б пазмагацца.

Ці варта было аказаць узброены супраціў? Адказаць на гэта пытанне цяжка. Канешне, баявыя дзеянні каштавалі б краінам Балтыі вельмі дорага, але і «мірнае вырашэнне» савецка-латвійскіх і савецка-эстонскіх «спрэчак» прывялі да значных ахвяр з боку жыхароў дзвюх краін.

## Анексія

26 верасня 1939 года Крэмль аддаў загад сваім войскам праз тры дні нанесці ўдар па Эстоніі, а калі суседзяў падтрымае Латвія, то атакаваць і яе. 27 верасня Саветы патапілі свой параход «Металіст» і абвінавацілі ў гэтым «невядомую падводную лодку». У той жа дзень у Маскву прыбыла эстонская дэлегацыя, якая вымушана была падпісаць Пакт аб узаемадапамозе з СССР, які прадугледжваў размяшчэнне на эстонскай тэрыторыі савецкіх вайсковых баз.

Ужо 18 кастрычніка 1939 года ў Эстонію былі ўведзены часткі РСЧА (65-ты асаблівы стралковы корпус і асаблівая група ВПС). 2 кастрычніка 1939 года ў Маскве пачаліся савецка-латвійскія перамовы. СССР патрабаваў ад Рыгі доступу да Балтыйскага мора праз парты Ліепая і Вэнтспілс. Праз тры дні быў падпісаны дагавор, які прадугледжваў увод у Латвію 25-тысячнага кантынгенту Чырвонай Арміі. 23 кастрычніка 1939 года ў порт Ліепая ўвайшоў савецкі крэйсер «Кіраў».

Лёс Латвіі і Эстоніі быў вырашаны. Нягледзячы на гэта, жыхары падтрымлівалі барацьбу фінаў супраць савецкай агрэсіі, а эстонская выведка нават перадавала паўночным суседзям дадзеныя пра дыслакацыю і дзейнасць Чырвонай Арміі. У маі 1940 года Германія разбіла Францыю, што прымусіла Маскву фарсіраваць вырашэнне «прыбалтыйскага пытання». 4 чэрвеня 1940 года войскі савецкіх Беларускай асаблівай, Ленінградскай і Калінінскай вайсковых акруг былі выведзены да межаў краін Балтыі.

## Паводле сцэнару Арлоўскага і Ваўпшасава

15 чэрвеня 1940 года група спецыяльнага прызначэння НКУС атакавала латвійскі памежны пункт у вёсцы Маслёнкі, які быў пабудаваны ўсяго ў 10 метрах ад памежнай ракі Лудза. 25 жаўнераў НКУС ноччу незаўважанымі перасеклі Лудзу і атачылі будынак заставы з усіх бакоў. Быў акружаны і дом памежніка Крыевіньша. Вакол будынка заставы савецкія дыверсанты расклалі звязкі ручных гранат. Калі пачуліся першыя стрэлы, нкусаўцы вырашылі не браць палонных і знішчыць гарнізон латвійскай заставы. Цяжка паранены патрульны Яніс Мацыціс спрабаваў дабрацца да будынка заставы, які ў той момант яшчэ не быў падпалены. Аднак недалёка ад яго памежнік наступіў на гранату і падарваўся.

Вось як тыя падзеі апісвала жонка камандзіра латвійскай памежнай заставы: «Каля 3 гадзін раніцы я прачнулася ад аглушальнага выбуху. Адчула ўдар у галаву і боль па ўсім целе. Высветлілася, што ў дом кінулі ручную гранату і я цяжка параненая. Муж і дзеці не былі паранены. Муж крыкнуў: «Чырвонаармейцы!», і загадаў дзецям лезці пад ложак, а мяне выцягнуў у калідор, таму што звонку раздаваліся стрэлы з вінтовак і аўтамата. У той жа час звонку пачалі крычаць на рускай мове, каб выходзілі, і сталі ламаць дзверы. Праз выламаныя дзверы ўвайшлі тры чырвонаармейца, узброеныя вінтоўкамі са штыкамі. Забралі майго мужа і дванаццацігадовага сына Артурса. Куды яны падзеліся, не ведаю. Ад раненняў на час я страціла прытомнасць. Калі прачнулася, звонку нікога не было. Бачыла толькі, як гарыць будынак кардона». Некалькіх латвійскіх памежнікаў, а таксама некалькі дзясяткаў мясцовых жыхароў нкусаўцы захапілі ў палон і ўвялі на сваю тэрыторыю. Увогуле ж у той дзень савецкія дыверсанты атакавалі тры латвійскія памежныя пасты.

## Акупацыя

16 чэрвеня 1940 года Крэмль прад'явіў ультыматум Рызе і Таліну, у якім урады гэтых дзяржаў абвінавачваліся ў парушэнні ўмоў, прапісаных у «Дамове аб узаемадапамозе». На наступны дзень у гэтыя краіны былі ўведзены дадатковыя вайсковыя часткі РСЧА. Хутка ў Латвіі і Эстоніі былі сфармаваны новыя ўрады. 14 ліпеня 1940 года былі праведзены выбары ў парламент, на якіх «перамаглі» пракамуністычныя блокі. Новыя парламенты 21–22 ліпеня абвясцілі стварэнне Латвійскай і Эстонскай савецкіх рэспублік, якія «выказалі жаданне» ўвайсці ў склад СССР.

З гэтым не маглі пагадзіцца некаторыя вайсковыя часткі. Так, у Таліне, у сваіх казармах да апошняга абараняўся батальён эстонскіх сувязістаў. 3–6 жніўня 1940 года Вярхоўны Савет у Маскве «задаволіў» просьбу «прыбалтыйскіх таварышаў». 22 ліпеня 1940 года былы прэзідэнт Латвіі Карліс Ульманіс быў вывезены ў Маскву, а пазней арыштаваны і высланы ў Туркменістан. Там ён і памёр у турэмным шпіталі ў 1942 годзе. Эстонскі прэзідэнт Канстанцін Пятс быў арыштаваны і дэпартаваны ў Уфу. Утрымліваўся ў псіхіятрычнай лякарні ў Калінінскай вобласці РСФСР і памёр у 1956 годзе.

Войска Латвіі і Эстоніі былі пераўтвораныя ў 24-ты і 22-гі тэрытарыяльныя стралковыя карпусы РСЧА адпаведна. Частка «буржуазных» афіцэраў была арыштавана НКУС. За год, які прайшоў з моманту далучэння Латвіі і Эстоніі да СССР бальшавікі паспелі арыштаваць і рэпрэсаваць значную частку насельніцтва гэтых краін.

Падчас самай буйной дэпартацыі, якая скончылася за дзень да нападу Германіі на СССР, з Латвіі было дэпартавана каля 16,5 тысяч чалавек, а з Эстоніі — больш за 10 тысяч. Пасля далучэння Эстоніі да СССР капрал эстонскай памежнай аховы Гаўрыл Карніг некаторы час жыў у Таліне. У лютым 1941 года яму прыйшлося рэгістравацца ў талінскай міліцыі. Праз некалькі месяцаў, калі пачалася арышты былых эстонскіх памежнікаў, Карніг па падробленых дакументах выехаў у Швецыю, а адтуль эміграваў у ЗША.

Рыбная крама, якая належала грамадзянцы Латвіі Вользе Снорыньш і яе мужу, была нацыяналізавана. Альгіс Снорыньш стаў сяржантам 24-га тэрытарыяльнага корпуса Чырвонай Арміі.

Справу анексіі Крамлём краін Балтыі лепей за ўсё ахарактарызаваў брытанскі прэм'ер-міністр Уінстан Чэрчыль: «Мы ніколі не прызнавалі межы Расіі 1941 года, акрамя як de facto. Яны дасягнутыя шляхам агрэсіі ў ганебнай змове з Гітлерам. Здача народаў краін Балтыі пад уладу савецкай Расіі супраць іх волі будзе супярэчыць усім прынцыпам, за якія мы вядзем вайну і будзе ганьбіць нашу справу».

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**



**Брама на латвійска-савецкай мяжы, лета 1940 год**



**Альгіс Снорыньш з жаўнерамі, 1937 год**



**Латвійскі жаўнер пад партрэтам прэзідэнта Ульманіса**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 581

Падпісана да друку 17.06.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.